


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

27 КАСТРЫЧНІКА 2000г. № 43/4075 КОШТ 100 РУБ.







# Лапік зямлі, не пакрытай асфальтам

Кальварыя даволі далёка ад цэнтра горада. Кальварыя — гэта старыя каталіцкія могілкі. Большасць пахаванняў — XIX стагоддзя. Надпісы на камянях — лацінкаю. У якім стане пахаванні — здагадацца няцяжка. Больш-менш дагледжаныя тыя, што побач з касцёлам. Сярод іх магіла паэта Янкі Лучыны (Яна Люцыянавіча Неслухоўскага). Ён пахаваны сярод сваякоў, сярод іншых Неслухоўскіх.

Афіцыйна помнікамі дойлідства лічацца Кальварыйская брама (1830 г.) і касцёл (1839 г.). Брама — помнік класіцызму, касцёл — неаготыкі. Але насамрэч уся Кальварыя — помнік мінуўшчыны і згадка пра непазбежную будучыню.

Гэты лапік зямлі, не пакрыты асфальтам, гэты ўвенчаны храмам пагорак узвышаецца над наваколлем напамінам аб крыжовых пакутах Хрыста і абуджае думку, што хоць і жывём аднойчы — але не з нас пачалося і не намі скончыцца жыццё.

Побач з могілкамі лепш адчуваеш пульс жыцця...

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*







# КОЛА ДЗЁН

***Апошнімі гадамі пра нас, беларусаў, гаворыцца нямала крыўднага, непаважлівага. Маўляў, мы занадта цярплівыя, рахманыя, пакорліва-паслухмяныя, даверлівыя... Яно быццам і праўда, зважаючы на тое, як мы жывём, як пачуваемся сёння самі і якую будучыню рыхтуем сваім дзецям і ўнукам. А між тым... Восемдзесят гадоў назад Ядвігін Ш. у адным з артыкулаў цыкла "Думкі кутніка", што друкаваліся ў газеце "Беларусь", якая выходзіла ў Мінску з кастрычніка 1919-га па ліпень 1920-га, пісаў: "Зпаміж усіх славянскіх народаў наш брат-беларус найбольш, бадай, мае тэй мудрай асцярожнасці, развагі: на прыгожыя слоўцы яго не возьмеш, абяцанкамі не заманіш. Яму што ні скажы — пярэчыць не будзе, нат стане патураць, але, калі вы будзеце думаць, што яго пераканалі, угаварылі — то вы не знаеце беларуса. Яму трэба абгледзець сваімі ўласнымі вачыма; яму трэба абмацаць — сваімі ўласнымі рукамі; яму трэба папрабаваць — сваім уласным языком. Мала таго: ён яшчэ і сам сабе не верыць — а мо ў яго смак сапсаваны — дасць суседу пакаштаваць і пільна ўважае: паморшчыцца той чы не. І калі ўжо возьмецца за што, то як рак клешнямі, тады з ім можна добра працаваць". Прачытаеш такое і задумаешся. Што ж з намі зрабілі за гэтыя 80 гадоў?***

## *ПЛАНЁРКА ТЫДНЯ*

"Белорусская нива" рэгулярна друкуе інфармацыі аб штотыднёвых панядзелкавых планёрках у Мінсельгасхарчы. Апошняя з іх адбылася 23 кастрычніка. Інфармацыя аб ёй змешчана ў газеце 24 кастрычніка пад загалоўкам "Цяжар старых даўгоў". Што ж гэта за даўгі? Аказваецца, вось яны: міністр "запатрабаваў тэрмінова разабрацца з заканчэннем палявых работ", "указаў глаўку раслінаводства на тое, што не ўносіцца ніякіх прапаноў па выпраўленні сітуацыі з уборкай бульбы і кукурузы", "парэкамендаваў тэрмінова ўдзяліць асаблівую ўвагу нарыхтоўцы і закладцы на захоўванне гародніны", "указаў глаўку і Камітэту па хлебапрадуктах на тое, што яны не прымаюць мер да тых, хто не засыпаў ні асноўных, ні страхавых фондаў насення", адзначыў, што "кепска ідзе ўборка лёну і выкананне дзяржзаказу па гэтай культуры"... Даўгі сапраўды старыя, усё гэта на добры лад павінна было б быць зроблена даўно, бо планёрка ў міністра праходзіла праз 10 дзён пасля Пакроў, да якіх у руплівага гаспадара ў полі звычайна было ўжо чыста...

## *ЦЯГНІК ТЫДНЯ*

У мінулую суботу з Мінска ў Маскву ў першы рэйс выправілася навюсенькая камфартабельная "двойка". У вагонах выкарыстаны новыя аддзелачныя матэрыялы, устаноўлены халадзільнікі і СВЧ-печы, у спальных вагонах ёсць бягучы інфармацыйны радок, кнопкі выкліку праваднiка, нават душавыя. Вагоны, аднак, не новыя, а "старыя" — іх вярнулі да жыцця ў новай якасці ўкраінскія рамонтнікі з Днепрапятроўска. Летась яны адрамантавалі для Беларусі 20 вагонаў, і вось зараз — зноў 20: 7 шыкоўных СВ, 11 купэйных і 2 вагоны-рэстараны. Калі такое супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Украінай узаемавыгаднае, дык, як той казаў, дай Бог і надалей!

## *ПРАФЕСІІ ТЫДНЯ*

Чым можа выклікаць цікавасць скупое газетнае паведамленне аб тым, што Пінскае ПТВ N 161 памяняла сваю прафарыентацыю? Гэта ПТВ мела, так сказаць, "балотны" профіль — рыхтавала спецыялістаў-меліяратараў. Цяпер жа гэтыя "базавыя" прафесіі навучэнцы асвойваюць толькі ў дзвюх групах, а ў астатніх вучацца на прадаўцоў, кандытараў, кухараў, а з сёлетняга года — і на леснікоў. Значыць, даасушваліся і нарэшце спахапіліся? Ці не пра гэта найперш гаворыць сціплая інфармацыя з Пінска?

## *ПРАЕКТЫ ТЫДНЯ*

Беларусі будзе перададзена адно з нафтавых месцанараджэнняў у Расіі, дзе будзе здабывацца сыравіна для нашых НПЗ — Наваполацкага і Мазырскага. Аб гэтым дасягнута дамоўленасць у час сустрэчы У. Пуціна і А. Лукашэнкі ў Сочы. "Такім чынам, — адзначыў у інтэрв'ю БТ Аляксандр Рыгоравіч, — мы вельмі істотна павысім сваю энергетычную бяспеку". Другі праект — газавы — таксама быў абмеркаваны ў Сочы, але ўжо ў прысутнасці кіраўніка РАА "Газпрам" Р. Вяхірава. Ён прадугледжвае будаўніцтва трубаправода праз Беларусь для паставак расійскага газу ў Заходнюю Еўропу. "Калі гэты праект мы рэалізуем, — заявіў А. Лукашэнка, — мы ў два разы будзем жыць лепш. Таму што толькі ад транзіту мы атрымаем столькі грошай, што іх хопіць для аплаты ўсяго газу, які мы сёння спажываем у Беларусі". Заманлівыя праекты, сапраўды шматабяцальныя, аднак жа — і цяжка пад'ёмныя. У якім годзе (ці дзесяцігоддзі?) XXI веку яны будуць рэалізаваны?

## *ПРЫКМЕТА ТЫДНЯ*

У нашым метро зноў з'явіліся абвесткі аб тым, што продаж праязных жэтонаў абмежаваны — два ў адны рукі. Мінчукі і госці сталіцы ўжо ведаюць: значыць, праезд неўзабаве падаражэе. Праўда, начальства — і метрапалітэнаўскае, і вышэйшае — запэўнівае, што гэтага не будзе, адкак ва сумненні — застаюцца. Дыму без агню не бывае. Пажывём — пабачым.

## *ЗЛОДЗЕЙ ТЫДНЯ*

Ля магазіна "Сябрына" ў Віцебску мужчына вырваў з рук жанчыны сумачку з грашыма і кінуўся наўцёкі. Не адразу, але яго ўсё-ж здолелі злавіць і затрымаць, хоць і не без цяжкасці, бо злачынец аказаў міліцыянерам супраціўленне. Самае ж цікавае, бадай, у тым, што злодзей аказаўся грузінам з прозвішчам Джугашвілі, хоць і не Іосіфам Вісарыёнавічам...

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"Я вылучаю шэраг асаблівасцей, якія ўласцівы выбарчым кампаніям прадстаўнікоў "партыі напаўкрымінала". У іх арсенале найперш — подкуп выбаршчыкаў, які выдаецца за дабрачыннасць. У ход ідуць вялікія сродкі на розныя падачкі: грашовая "дапамога" ветэранам вайны, "бязвыплатныя падарункі" школам і бальніцам, "бясплатныя" лекі інвалідам і гэтак далей. З той жа сумненай крыніцы аплачаны пышныя шумныя канцэрты і дыскатэкі для моладзі ў мікрараёнах таго ж Мінска, калі поп-"зоркі" "ад чыстага сэрца" праслаўляюць такіх кандыдатаў. Пры гэтым, як правіла, самі кандыдаты апранаюцца ў тогу дзеячаў гуманітарных фондаў, "незалежных" уладальнікаў нейтральных "гастранамічных" газет, "моцных гаспадарнікаў"... Яны маскіруюцца пад гэткіх беспартыйных "добрых хлопцаў". Так яны імкнуцца выглядаць у вачах выбаршчыкаў.

Між тым на сустрэчу з людзьмі каманда такога кандыдата падкочвае на 8—10 інамарках, у аўтобусах на сустрэчы сотнямі падвозіцца п'янаватая клака. На "гаспадара" працуе прафесійная каманда ў некалькі сот шчодра аплачаных "актывістаў"... Нарэшце яшчэ адно: многія ценевікі публічна клянуцца ў лаяльнасці ўладзе і аддаюцца ёй, а ў прыватных гутарках з асобнымі выбаршчыкамі марацъ аб рэваншы на прэзідэнцкіх выбарах..."

(З інтэрв'ю В. Абрамавай, змешчанага ў "Советской Белоруссии" за 24 кастрычніка г.г. пад загалоўкам "Хто спрабуе заехаць у Авальную залу на "шасцісотым" "Мерсэдэсе"?")

# Сустрэчы ў Мінску

Дэлегацыя рускіх пісьменнікаў, што на чале з першым сакратаром СП Масквы, вядомай паэтэсай Рымай Казаковай знаёмілася з Мінскам, наведала Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны. Слынны навуковец, прафесар Адам Мальдзіс расказаў гасцям пра гісторыю стварэння Цэнтра, пра працу калектыву па збіранні і захаванні найвыдатнейшых здабыткаў айчыннай культуры, у прыватнасці рарытэтных выданняў, пра мэты і задачы, што стаяць сёння перад беларусістамі.

Адбылася таксама сустрэча літаратараў Расіі са студэнтамі і выкладчыкамі факультэта журналістыкі БДУ. Пра пільную патрэбу не змешваць сур'ёзную літаратуру, добрую прозу і паэзію з камерцыйнымі аднадзёнкамі гаварылі маладзі літаратуразнаўца і крытык Юрый Сураўцаў, галоўны рэдактар выдавецтва "Московский рабочий" Кірыл Кавальджы, паэт і празаік Барыс Яўсееў. Рыма Казакова расказала слухачам пра свой творчы шлях, Эліна Сухава і Аляксей Гелейн прачыталі свае вершы. Перад прысутнымі выступілі таксама беларускія паэты Леанід Дранько-Майсюк і Навум Гальпяровіч. Напрыканцы імпрэзы пісьменнікі адказалі на шматлікія пытанні.



*Падчас гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў.* *Фота М. ПРУПАСА*

Увечары гасцей з Масквы прыняў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Урал Латыпаў. Падчас шчырай гутаркі, у якой узялі ўдзел выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, дырэктар "Беллітфонду" Уладзіслаў Мачульскі, вядучы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" паэт Мікола Мятліцкі, празаік Анатоль Сульянаў былі пастаўлены пытанні ўмацавання сувязей паміж нашымі краінамі ў галіне літаратуры і культуры, захавання гістарычнай спадчыны, а таксама вяртання на Беларусь нацыянальных каштоўнасцей, што ў розныя часы і рознымі шляхамі трапілі за мяжу. Закранаўся іх слуцкіх паясоў, вялікая колькасць якіх знаходзіцца ў музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга, між тым як на Беларусі захаваўся адзіны экземпляр гэтых найдаражэйшых твораў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, што складаюць славу і гонар нашай краіны. Як падкрэслілі госці, беларусам трэба больш рашуча і настойліва нагадваць пра свае праблемы на самым высокім узроўні. Вынікам сустрэчы стала дамоўленасць аб неабходнасці больш цеснага супрацоўніцтва на карысць абедзвюх дзяржаў.

**Марыя РУДОВІЧ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

"Круглы стол" па праблемах мастацкага перакладу, што ладзіўся сумеснымі намаганнямі Саюза беларускіх пісьменнікаў і Польскім інстытутам у Мінску, адбыўся ў канферэнц-зале Дома літаратара. Намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч падкрэсліў, што мы павінны дбаць пра як наймага лепшую падрыхтоўку перакладчыкаў, каб беларускую літаратуру і беларускіх аўтараў лепш ведалі ў свеце, каб мець цесныя міжнародныя стасункі з мэтай упісаць наша своеасаблівае слова ў кантэкст сусветнай літаратуры. Пісьменнік і перакладчык з Польшчы Чэслаў Сэнюх, даўні і блізкі сябар Беларусі, які ажыццявіў пераклад на польскую мову "Новай зямлі" Якуба Коласа, цікава і падрабязна распавёў пра шматгадовую перакладчыцкую дзейнасць. Майстру даводзілася працаваць над творамі многіх беларускіх літаратараў, але найбольшую ўвагу пісьменнік надае творчасці Васіля Быкава і Янкі Брыля, якіх лічыць увасабленнем сапраўднага беларускага менталітэту і светаадчування. Польшча і Беларусь — гэта дзве розныя мовы, дзве розныя культуры, але яны маюць і многа агульнага, зазначыў спадар Сэнюх. І найперш гэта агульная гісторыя, вялікая агульная дзяржава ў мінулым, што карэнным чынам паўплывала на лёс беларусаў і палякаў. У Польшчы зараз працуе кола спецыялістаў-перакладчыкаў, якія распрацоўваюць шэраг філалагічных пытанняў у галіне перакладу: лексікалагічных, версіфікацыйных, сілабічных, сілаба-танічных, а таксама праблему "геніяльнай прастасці" пры набліжэнні аднай мовы да другой. Часопіс "Літуанія", заснаваны клубам прыхільнікаў Літвы, публікуе на сваіх старонках творы Адама Мальдзіса, Віктара Кулажэнкі, Уладзіміра Конана, Яўгена Сахуты, Юрыя Лабынцава і іншых беларускіх аўтараў, шмат намаганняў прыкладае для папулярызацыі беларускай культуры. Было б някепска, падкрэсліў Чэслаў Сэнюх, падумаць пра стварэнне супольнага беларуска-польскага выдавецтва, якое даносіла б набыткі польскай літаратуры да беларусаў, а беларускай — да палякаў.

У пасяджэнні "круглага стала" ўзялі ўдзел Васіль Сёмуха, Валянцін Тарас, Вячаслаў Рагойша, Паўлюк Пранузa, Язэп Янушкевіч, Міхась Кенька, Кастусь Цвірка, якія гаварылі пра перакладчыцкі талент, магчымасці пераўвасаблення, неабходнасць дасканалага ведання мовы, валодання тэорыяй перакладу, а таксама пра тое, што перакладаць трэба тыя творы, якія ўзбагачаюць літаратуру, культуру, чытача.

**Марыя РУДОВІЧ**

●

Сустрэча з выхаванцамі школ-інтэрнатаў Беларусі адбылася ў пісьменніцкай бібліятэцы. Пагутарыць з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, многія з якіх робяць свае першыя крокі ў творчасці, прыйшлі Аляксей Дудараў, Алесь Савіцкі, Міхась Чарняўскі, Яўген Каршукоў.

Пісьменнікі не толькі чыталі свае творы, адказвалі на пытанні, але і падарылі сваім новым юным сябрам уласныя кніжкі з аўтографамі.

**Н. К.**

●

На чарговым пасяджэнні Бюро секцыі паэзіі быў абмеркаваны план работы на 2001 год. У прыватнасці, было вырашана ў наступным годзе правесці "круглы стол", прысвечаны выпуску паэтычных зборнікаў недзяржаўнымі выдавецтвамі.

Разгледзеўшы творчасць Ніны Шкляровай і Андрэя Мазько, члены бюро секцыі аднагалосна рэкамендавалі іх для прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**З. ВІШНЁЎ**



АНОНС

# "Таленты Беларусі" рыхтуюцца да школы

## З 1 ПА 12 ЛІСТАПАДА Ў МІНСКУ БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ НОВАЯ — ТВОРЧАЯ ШКОЛА ДЛЯ ТАЛЕНАВІТЫХ ДЗЯЦЕЙ

Яе арганізуе Спецыяльны фонд Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. З нядаўняга часу фонд займеў уласнае імя: "Таленты Беларусі", што цалкам адпавядае напрамку яго спраў, мэтам яго працы.

Такім чынам, новы напрамак: творчая школа. Апроч прадстаўнікоў сталіцы і Мінскай вобласці, дзе ўдзелу ў занятках запрошаны па шэсць чалавек з іншых абласцей краіны: тры музыканты і тры мастакі ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў. (Пошук і кампетэнтны адбор найбольш даравітых і перспектыўных дзяцей вядзецца мясцовымі навучальнымі ўстановамі, цэнтрамі па працы з творчай моладдзю).

Юныя творцы пройдуць спецыяльны курс навучання, атрымаюць вызначаны аб'ём прафесійных ведаў і навыкаў пад кіраўніцтвам вядучых педагогаў. Заняткі арганізуюцца на базе ДМШ N 10 і навучальнага комплексу, да нядаўняга часу вядомага як 26-ты мастацкі ліцэй. Далучаюцца кафедры спецыяльнага фартэпіяна і скрыпкі Беларускай акадэміі музыкі, каледж, што існуе пры ёй. Юныя мастакі змогуць пабываць у майстэрнях вядучых беларускіх жывапісцаў. Для ўсіх удзельнікаў школы прадугледжана наведванне культурных імпрэзаў. Жыць дзеці будуць у санаторыі непадалёк ад сталіцы, што дае магчымасць наладзіць для іх і аздараўленчы курс. Вынікам працы творчай школы будзе мастацкая выстаўка і гала-канцэрт з удзелам стыпендыятаў фонду.

Дарэчы, фонд "Таленты Беларусі" рыхтуецца адзначыць сваё 5-годдзе. Як падкрэсліла яго адказны сакратар Ірына Літвін у гутарцы з нашым карэспандэнтам, гэты фонд — адзіны ў СНД, праз які ідзе дапамогі таленавітым маладым людзям падтрымліваецца на самым высокім дзяржаўным узроўні. За 5 гадоў 397 чалавек сталі яго стыпендыятамі, больш за тысячу атрымалі фінансавую дапамогу, у тым ліку — праз прызавыя фонды розных творчых і выканаўчых конкурсаў, якія праводзяцца ў нашай краіне.

Фонд адсвяткуе свой пяты "дзень нараджэння" ў лютым. Да гэтай падзеі плануецца яшчэ шмат чаго зрабіць, арганізаваць. Планы спакваля здзяйсняюцца. Напрыклад, выйшаў першы CD пад назвай "Таленты Беларусі", дзе сабраны запісы стыпендыятаў фонду. Сярод іх такія знаныя маладыя выканаўцы, як Андрэй Паначэўны, Сяргей Смірноў, Міхась Лявончык, Алег Яцына, Аляксандр Чаркас, кампазітар Дзінара Мазітава...

Рыхтуецца да вытворчасці другі дыск. Ёсць некалькі іншых перспектыўных праектаў. Але на сённяшні дзень асноўная ўвага — творчай школе. Яна, дарэчы, таксама задумана з перспектывай.

КАНФЕРЭНЦЫІ

# 10 год надзей і расчараванняў

— Мы жывём на мяжы стагоддзяў: азіраемся на мінулае, асэнсоўваем сённяшняе, імкнёмся прадбачыць будучыню, — такімі словамі пачалася міжнародная канферэнцыя "Еўропа 2000: жанчыны і палітыка". Ініцыятарам яе стаў Жаночы незалежны дэмакратычны рух, арганізатарам жа — Жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр пры IBB (і тое, і другое ўзначальвае лідэр жаночага руху на Беларусі Людміла Пеціна).

На такіх роду мерапрыемствах цяжка пазбегнуць паўтарэння вядомых ісцін — кшталту той, што крытэрыем становішча жанчын у любой краіне з'яўляецца іх удзел у палітыцы. Зрэшты, ці настолькі гэта агульнавядома? Жанчыны ў нас не дасягнулі належнай ступені самасвядомасці, каб разумець свой сацыяльны інтарэс, а дужы пол зыходзіць выключна з патрыярхатных уяўленняў і ўласнай гіпертрафіраванай прагі ўлады. "Мужчынам у палітыцы не хапае разумення, спачування, цярплівасці — усяго таго, што ёсць у жанчын", — падкрэсліў першы сакратар пасольства ЗША Майкл Райнерт. А ганаровы старшыня Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр прызналася, што ведае з уласнага вопыту, як цяжка і падчас небяспечна жанчыне быць у палітыцы.

Прысутнасць гэтага "старога байца" (так яна сябе назвала) надала гаворцы адпаведны ўзровень. Многія з удзельніц памятаюць сустрэчу са спадарыняй Фішэр у Германіі два гады таму, калі яна была не ганаровым, а дзеючым старшынёй Еўрапарламента і зацікаўлена паставілася да жаночай дэлегацыі з Беларусі і нашых надзённых праблем.

Падчас выступленняў прагучала яшчэ адно вядомае імя — Маргарэт Тэтчэр, чыя юбілейная дата адзначалася ў тыя дні. Менавіта "жалезнай лэдзі" належыць наступнае выказванне: "Калі жанчына стане нароўні з мужчынам, то яна заўсёды пераўзыходзіць яго".

Гісторыю жаночага палітычнага ўдзелу ў нашай рэспубліцы Л. Пеціна атэставала так: "10 год надзей і расчараванняў". Расчараванняў, відаць, было болей, бо па сутнасці нават самыя актыўныя і рашучыя з жанчын не здолелі прабіцца да "руля". Адзіная жанчына ў нашым Кабінеце Міністраў — яскравае таму сведчанне. Не на карысць жанчынам мажарытарная выбарчая сістэма і адсутнасць квотаў на жаночы ўдзел у кіраўніцтве партый. Няўжо мы і ў партыях, як у царкве, заклікаты адно ствараць "масоўку" і несці на сваіх плячах цяжар чарнавой працы?

Ёсць жа і іншыя прыклады ў свеце. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі ў РБ Шуле Сойсал паведаміла, што ў яе краіне шмат жанчын не толькі ў праве, дыпламатыі, камп'ютэрнай навуцы, але і ва ўрадавых установах, у Вярхоўным судзе, Канстытуцыйным судзе. Камітэт па правах чалавека ўзначальвае жанчына, а былая прэм'ер-міністр зараз ачольвае апазіцыйную партыю. Пасол выказала спадзяванне, што чалавецтва ўрэшце ў гэтым пытанні прыйдзе да раўнавагі.

Закранулася сацыяльнае становішча народа. Прагучала шмат цікавых лічбаў ад Алега Манаева, што прадстаўляў няўрадавы інстытут сацыялагічных даследаванняў. Старшыня тутэйшай філіі "Яблыка" Вольга Абрамава канстатавала не толькі жабрачы стан насельніцтва Беларусі, але і апатыю, нявер'е ў заўтрашні дзень. Заадно яна паскардзілася на "брудны характар" выбарчага байкоту і паабяцала падаць у суд на газету "Народная воля" за публікацыю фактаў, якія не адпавядаюць сапраўднасці.

Уздымалася пытанне мужчынскай агрэсіўнасці: як яму супрацьстаяць? Доктар навук Надзея Шведава (Расія) параіла не баяцца агрэсіі, бо тая патрэбна для выжывання. У яе цікавым выступленні была абмалявана гендэрнарная сітуацыя ў Расійскай Федэрацыі. Хоць жанчыны там знаходзяцца толькі ў аснове палітычнай піраміды, але тое-сёе ўжо дасягнута.

У спісе ўдзельнікаў міжнароднай канферэнцыі значылася вялікая колькасць грамадскіх жаночых арганізацый з Мінска і рэгіёнаў. На жаль, некаторыя з іх існуюць намінальна і слаба праяўляюць сябе ў фізічным свеце. Думаецца, жаночы рух нельга зводзіць да чынных асветных мерапрыемстваў элітарнай скіраванасці. Без работы "ў масах", без пашырэння сацыяльнай базы, формаў і метадаў дзейнасці беларускаму жаночаму руху пагражае калапс. І чым раней гэта зразумеюць лідэры буйных і дробных арганізацый, тым хутчэй мы прыйдзем да вольнай дэмакратычнай Беларусі.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ВЫСТАВЫ

# Адметнае пакаленне

Ідэя мастакоў — сёлетніх шасцідзесяцігадовых юбіляраў графіка Уладзіміра Басалыгі, жывапісца Алеся Марачкіна і скульптара Алеся Шатэрніка — выставіцца адначасова ў Нацыянальнай мастацкай галерэі, на жаль, не здзейснілася. Алеся Антонавіча "паклікалі" роспісы за акіянам. Тым не менш выставы У. Басалыгі і А. Шатэрніка сталі цікавай з'явай, на якую варта звярнуць увагу гледачу.

А ідэя сапраўды была слушная. Пакаленне сёлетніх юбіляраў адметна выявілася ў беларускім мастацтве. У 70-х гадах, натхнёныя нацыянальнай ідэяй і творчасцю У. Караткевіча, З. Верас, Л. Геніюш, многія маладыя мастакі пайшлі па шляху нацыянальнага ў мастацтве. Натуральна, мусілі часам звяртацца і да існуючай сімволікі, і да нецікавых тэм. Але галоўным было тое, што яны адмаўлялі распаўсюджанаму, штучна створанаму тады ў нашым мастацтве вобразу "лапцюжнага беларусіка". Яны шукалі нестандартных мастацкіх рашэнняў, новых вобразаў, адметны погляд на гісторыю Беларусі.

Жыццё падкідвала ім праблем, даводзілася праходзіць праз нераззуменне, непрыняцце, адмовы выставляцца. Памятаецца, Уладзіміру Басалыгу, як цяжка працавалася над цяпер знакамітай серыяй "Помнікі дойлідства Беларусі", а серыя літар беларускага буквара дасюль засталася няскончанай. Алесь Шатэрнік вядомы як майстра лірычна-камернай скульптуры, заўжды быў далёкі ад распаўсюджаных гераічных і патэтычных тэм. На жаль, многія яго творы існуюць толькі ў эскізах і ім не наканавана ўпрыгожыць гарадское асяроддзе. Думаецца, менавіта таму мастак актыўна займаецца зараз жывапісам, дзе ён адчувае рэальнае ўвасабленне сваіх задум.

Нацыянальная ідэя, якая натхняла У. Басалыгу і А. Шатэрніка, не заўжды была на карысць іх кар'еры. Але яна дала годнасці іх творчасці. І азіраючыся на пройдзены мастакамі шлях, можна ўпэўніцца, што яны занялі адметнае месца ў нашым мастацтве.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**





*На здымках: на адкрыцці выставы: другі злева У. Басалыга, у цэнтры — А. Шатэрнік; А. Шатэрнік "Колас — настаўнік".*

*Фота М. ПРУПАСА*

АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА

### Ордэн — прэзідэнту

На Гомельшчыне актыўна працуе Таварыства Кірылы Тураўскага, якое шырока прапагандуе вялікую спадчыну славянскага асветніка 12-га стагоддзя. Яно мае свае філіялы ў Маскве і Кіеве. У абласным цэнтры створана адзіная ў рэспубліцы Славянская бібліятэка.

Гэтымі днямі тут адбыўся "круглы стол", прысвечаны 870-годдзю з дня нараджэння Кірылы Тураўскага і 200-годдзю выхаду ў свет выдання "Слова пра паход Ігаравы". Сабраліся навукоўцы, студэнцкая моладзь, святары — усе тыя, каму дарагія славянскія каштоўнасці.

Архіепіскап Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх ад імя Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Алексія II і Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Беларусі Філарэта ўручыў прэзідэнту таварыства, старшыні абласнога Савета дэпутатаў Валерыю Сяліцкаму вышэйшую царкоўную ўзнагароду — ордэн святога князя Уладзіміра III ступені за вялікі ўклад у развіццё славянскіх сувязяў.

### Музей спадчыны

У Беларусі працуе унікальны Веткаўскі музей народнай творчасці, які часта наведваюць самыя розныя дэлегацыі з Беларусі і краінаў далёкага і блізкага замежжа. У яго калекцыях — старажытныя рукапісныя кнігі, абразы і знакамітыя неглюбскія паясы. Заснавальнікам музея лічыцца веткаўчанін, заслужаны работнік культуры Фёдар Шкляраў. На працягу ўсяго свайго жыцця ён збіраў рэдкія каштоўнасці продкаў. Філіял музея створаны ў вёсцы Хальч Веткаўскага раёна.

Сёлета Фёдру Шкляраву споўнілася б 75 гадоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА

### "Гродзенскія салавейкі"

Такую назву носіць дзіцячы музычны калектыў, які стварыла і вось ужо 10 гадоў нязменна вядзе па жыцці выкладчыца музычнай школы N 1 Аліцыя Бінерт. І трэба адзначыць, назве сваёй дзіцячы гурт цалкам адпавядае.

Хлопчыкі і дзяўчынкі, якім ад 6 да 16 гадоў, не толькі мілагучна граюць на скрыпцы, віяланчэлі, кантрабасе, флейце, кларнеце. Яны спяваюць чатырохгалоссем і, здзіўляючы публіку, выконваюць творы Шапэна і Шуберта, Бетховена і Манюшкі, а таксама іншых кампазітараў-класікаў.

25 кастрычніка "Гродзенскія салавейкі" адзначылі свой 10-гадовы юбілей. Яны з поспехам выступілі на сцэне гарадскога Дома культуры. Павіншаваць юных артыстаў са святам прыйшлі прадстаўнікі генеральнага консульства Польшчы ў Гродне, гарадскіх уладаў, а таксама былыя ўдзельнікі ансамбля, многія з якіх ужо з'яўляюцца студэнтамі акадэміі музыкі ў Мінску, Варшаве і Кракаве.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

## ВІЦЕБШЧЫНА

### Сустрэча з творцамі

У літаратурнай гасцёўні Віцебскай СШ N 20 прайшла сустрэча школьнікаў і настаўнікаў з паэтамі Анатолем Канапелькам і Уладзімірам Папковічам. Тэмай сустрэчы стала творчасць Уладзіміра Караткевіча.

Але гутарка закранула і тыя працэсы, што сёння адбываюцца ў літаратурным жыцці Беларусі.

Каля помніка Пушкіну ў дзень ліцэйскай гадавіны — 19 кастрычніка — перад моладдзю выступіў старшыня Пушкінскага камітэта, аўтар кнігі "Падарожная А. Пушкіна" Давід Сімановіч. родны Віцебск наведаў кампазітар Барыс Насоўскі, які калісьці загадваў музычнай часткай тэатра імя Якуба Коласа, а зараз жыве ў ЗША. У гарадскім Цэнтры культуры на творчай вечарыне прагучалі яго песні.

### Бяроставы майстар

У літаратурным музеі Віцебска прайшла выстава вырабаў з бяросты народнага майстра з Расіі Ігара Гушчына. На закрыццё выставы прыехаў сам мастак.

Майстар робіць дзівосныя ўпрыгожванні — каралі, пярсцёнкі, бранзалеты, брошкі, паясы з бяросты, выкарыстоўваючы яшчэ і горны крышталь, бурштын, мельхіёр. У аснове сюжэтаў, якія можна бачыць на яго вырабах, язычніцкія матывы. Мастак засвоіў старажытную рускую тэхніку залачэння і срэбнявання бяросты, вынайшаў сваю тэхніку аб'ёмнай бяросты.

Чакаецца, што выстава бяросты Ігара Гушчына хутка будзе прэзентавана і ў Мінску. Віцебскі мастак Леанід Хоміч-Мірзаян даў такую адзнаку творчасці калегі: "Нічога падобнага не бачыў".

**Святлана ГУК**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА

### Адкрываецца "Залаты шлягер"

На гэтым тыдні ў абласным цэнтры адкрыецца VI музычны фестываль "Залаты шлягер". У конкурсе маладых выканаўцаў перад журы на чале з народным артыстам СССР Ігарам Лучанком пакажуцца і тры беларускія вакалісты: лаўрэат "Славянскага базара-98" Вікторыя Дзямянчук з Гродна, мінчанін Анатоль Олех з Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра эстрады і магілячанка Алена Макаранка, што займаецца ў студыі завода "Трансмаш". З імі паспаборнічаюць канкурсанты з 15 краін.

### Фестываль яўрэйскай кнігі

У Магілёўскім абласным Палацы спорту школьнікаў адкрыўся фестываль яўрэйскай кнігі, прысвечаны 140-годдзю з дня нараджэння Сямёна Дубнова, яўрэйскага пісьменніка і публіцыста. У праграме фестывалю — знаёмства з творамі яўрэйскіх класікаў і сучасных аўтараў. Удзельнікі фестывалю наведаюць Мсціслаў і радзіму Сямёна Дубнова.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## БРЭСТЧЫНА

### Свята філфака

Філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта адкрыўся ў 1945 годзе. Спачатку ён рыхтаваў настаўнікаў мовы, літаратуры і гісторыі. Цяпер жа тут працуюць 7 кафедраў, аспірантура, юнакі і дзяўчаты вучацца на 9 спецыяльнасцях. Сярод выкладчыкаў — члены-карэспандэнты акадэміі навук, прафесары, дактары навук, вядомыя ў рэспубліцы сваімі кнігамі і падручнікамі, артыкуламі і выступленнямі на шматлікіх навуковых канферэнцыях: В. Ляшук, А. Майсейчык, Г. Малажай, М. Мішчанчук і іншыя.

Брэсцкі філфак даў беларускай літаратуры такія імёны крытыкаў і пісьменнікаў, як Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Тычына, Міхась Рудкоўскі, Мікола Купрэеў, Алесь Разанаў, Васіль Жуковіч...

З нагоды юбілейнай даты філалагічнага факультэта цяперашнія і былыя выкладчыкі і студэнты сабраліся ў вялікай зале, каб падсумаваць набыткі і ўшанаваць папярэднікаў. У прыватнасці, першага дэкана філфака паэта Міхася Дуброўскага, загадчыка кафедры, пісьменніка і вучонага Уладзіміра Калесніка.

**Сымон АКСЕНІН**

# На Райнісаўскіх днях

У Даўгаўпілсе прайшлі штогодныя Дні паэзіі, прысвечаныя вялікаму латышскаму паэту Яну Райнісу. На гэтае свята чакалі і двух паэтаў з Віцебска і Мінска (іх прозвішчы былі надрукаваны ў праграмках), але абставіны не дазволілі ім прыехаць. Таму і на гэты раз беларускую паэзію тут прадстаўляў адзін Станіслаў Валодзька. І яго вершы на беларускай мове гучалі ў Цэнтры латышскай культуры ў выкананні артыстаў Даўгаўпілскага драматычнага тэатра, дзе прэзентаваўся зборнік вершаў "Drejas dienas" даўгаўпілскіх паэтаў на чатырох мовах: латышскай, латгальскай, рускай і беларускай. Сам С. Валодзька чытаў свае вершы на роднай мове на сустрэчах у школах горада і раёна, а таксама ў Домемузеі Я. Райніса ў Беркенелях, што недалёка ад Даўгаўпілса.

**Н. К.**

*Сфера духоўнага жыцця, якая адлюстроўвае — калі больш, калі менш дакладна — сферу жыцця рэальнага, занята, а можа, і акупавана прадстаўнікамі моцнай паловы чалавецтва. Гэтаксама, як сфера палітыкі, філасофіі, фундаментальнай навукі, літаратуры. Так заўсёды было. Так хутчэй за ўсё будзе і далей. І ў прыхільнікаў фемінізацыі, і ў прыхільнікаў патрыярхальных прынцыпаў і дамастроеўшчыны ("бабіна дарога — ад печы да парога", "кухня, царква, дзеці") ёсць досыць моцныя і пераканаўчыя аргументы.*

*Жанчынам пакінулі сферы жыцця не такія прэстыжныя, але больш працаёмкія. Тыя, якія не знаходзяцца навідавоку. У сям'і — сферу жыццезабеспячэння, а гэта значыць побыту і выхавання дзяцей. У грамадскім жыцці — педагогіку, медыцыну, гандаль, сферу абслугоўвання. Тыя, дзе трэба быць добразычлівым і трывалым, заўсёды ўсміхацца, мець вялікае цярпенне і моцныя нервы.*

*А што думае жанчына пра тую рэчаіснасць, якая вакол, пра сябе і пра тых, хто побач, — мы амаль не ведаем. Жанчынам вельмі часта не да размоў, не да філасофскіх разваг. Хоць бы ўсё паспець!*

*У жанчыне сыходзяцца разам усе праблемы — грамадскія і прыватныя, праблемы ўзаемаадносін у сям'і, выхавання дзяцей, праблемы бюджэту, побыту, творчасці. Самапачуванне жанчыны — своеасаблівая лакмусавая паперка, якая адлюстроўвае самапачуванне грамадства.*

*Але і рэчаіснасць змяняецца літаральна на вачах. Змяняецца ў сваіх знешніх праявах і па сутнасці. Яна зусім іншая, чым пяць, дзесяць гадоў таму. У маналогах жанчын і пра жанчын — стракатая мазаіка настрояў, пачуццяў, думак. І спроба перадаць водгулле менавіта цяперашняга часу.*

# Мы і Еўропа, або Жанчына сярод жыцця

**Журналістка:**

— Згадайце раман "Хаціна дзядзькі Тома" Бічэр-Стоу, якім мы ўсе зачытваліся ў школе. Галоўныя героі рамана, як вы памятаеце, негры, рабы. Што яны робяць? Днём працуюць на свайго гаспадара — прычым бясплатна. А вечарам яны працуюць на ўласным гародчыку. З якога, між іншым, і кормяцца.

А хіба ў нас не так? Калі работа не корміць ці амаль не корміць, дык мноства людзей жыве з таго, што яны здолеюць вырасціць на дачы, на лецішчы. Або на гародзе ў бацькоўскай вёсцы.

У Еўропе за горад едуць адпачыць. Калі маюць дом за горадам, дык каля дома — газон, траўка падстрыжаная, кветкі, клумбы. Ніхто з вясны да восені ў градах не корпаецца. Не палівае, не поле. Слоікі з гуркамі і памідорамі не закатвае. Варэнне не варыць. Там — прасцей прыйсці ў магазін і купіць гатовае. Яно і смачнае, і якаснае. У нас прасцей і танней усё рабіць самому. Тэарэтычна падзел працы павінен быць выгадны і эфектыўны. Але толькі не ў нас. У нас зачараванае месца. І таму агульныя эканамічныя законы ў нас не дзейнічаюць...

**Артыстка:**

— Мае знаёмыя некалькі гадоў таму паехалі ў Аўстралію. Назусім. Ён — спецыяліст па тэлевізарах, а іх, як вы разумееце, і ў Аўстраліі трэба рамантаваць. Яна тут на камп'ютэры працавала. Карацей кажучы, спатрэбіліся яны там. Прывыклі, асвоіліся. Хлопцу іхняму гадоў шэсць ці сем было, як адсюль з'ехалі.

Прыехалі яны неяк летам у Мінск — бацькоў наведаць, сваякоў убачыць. Іхні сын, відаць, праехаў некалькі разоў у нашым заўсёды перапоўненым транспарце і пытаецца ў маці:

— А што, ва ўсіх людзей адразу машыны паламаліся?

Разумееце, у яго, гэтага хлопчыка, ужо псіхалогія іншая...

**Мастачка, камп'ютэрны графік:**

— Паглядзіце на сучасныя магазіны, дзяржаўныя ўстановы, офісы прыватных фірм, на аптэкі, ашчадныя касы, калі ў іх зроблены еўрарамонт. Паглядзіце на абсталяванне, мэблю, столь, вокны, дзверы. Паглядзіце на белыя ручкі дзвярэй. Гэта ж не проста ручкі — гэта знак іншай цывілізацыі! Дзе жывуць заможна, дзе людзі ўсміхаюцца ідзін аднаму. Дзе ўсе пытанні вырашаюцца не сілай, а разумна і далікатна. Націсканнем на кнопку камп'ютэра.

Успомніце нашы ржавыя вісячыя замкі на дзвярах магазінаў — усё роўна як на дзвярах свірана. Успомніце, якімі былі дзесяць гадоў таму дзяржаўныя ўстановы. Казённы дух і сцены, пафарбаваныя ў панылы цёмна-сіні або цёмна-зялёны колер... Бр-р-р! А адзенне, а абутак савецкага ўзору? А наклейкі на слоіках — са старой, жоўтай паперы? А шэрая папера для загортвання прадуктаў? Вы хацелі б вярнуцца ў той час? Асабіста я — ніколі...

**Доктарка:**

— Жанчыны вельмі часта нагадваюць мне качак. Чаму? Калі б была магчымасць, усё жыццё б у вадзе, як качкі, плёскаліся. Калі на кухні гатуюць, увесь час нейкі посуд мыюць, прадукты мыюць. А то ў ванне бялізну мыюць ці падлогу мыюць. Уборка ў кватэры — ізноў з мокрымі анучкамі па ўсёй хаце ходзяць. То самі мыюцца, то дзяцей купаюць...

●

Сустрэліся **дзве сяброўкі.** Адна адзінокая, другая — замужняя.

Першая пытаецца з усмешкай, без усякай іроніі:

— Ну што, стаіш ля вечнага агню?

— Не зразумела...

— Ну, каля пліты... Гатуеш цэлымі днямі? Другая засмяялася.

І смех, і грэх — "вечны агонь". Але ж праўда!

●

— Жанчына — як сапёр. Яна памыляецца толькі адзін раз. Калі выбірае сабе мужа...

**З артыстам** гаворым пра тое, чаму ў асяроддзі мастацкай інтэлігенцыі так любяць ужываць моцныя напоі. І чаму досыць часта змяняюць аб'екты сваёй сардэчнай увагі. Тлумачэнне артыста крыху нечаканае:

— Разумееце, кожная сапраўдная творчасць — гэта далучэнне да сферы высокіх энергій. Адтуль, з неба, трэба потым спусціцца на зямлю. У паўсядзённую рэальнасць. А гарэлка ці жанчыны — гэта проста спосаб зазямлення...

Слухаю, маўчу. Што тут скажаш? Бедныя жанчыны! Некалі яны былі ідэалам, мэтай, сэнсам жыцця. А цяпер — толькі спосаб...

●

***Жанчына*** даўно развялася са сваім мужам, бо жыцця не бачыла. Гадуе дваіх дзяцей адна. У госці да яе прыходзяць дзве даўнія сяброўкі, таксама з дзецьмі. Маладзейшае пакаленне гуляе — то ціха, то гучна — у зале. Жанчыны на кухні п'юць гарбату і размаўляюць. Госці кажуць гаспадыні:

— Добра табе, што мужа няма... Ніхто не пілуе, галаву не дурыць, нагатаць не чытае. Нічога не патрабуе, не прыдзіраецца...

Гаспадыня смяецца:

— У чым справа? Хто вам перашкаджае?

**Мастачка:**

— Я думаю, што любоў да мужчыны — магчыма, з'ява прыдуманая. Клопат пра уласных бацькоў ці клопат пра дзяцей, любоў да іх — гэта зразумела. А любоў да мужчыны, можа, і не патрабуе такіх душэўных затрат. Такой аддачы, як ад творчасці, ад мужчыны няма. Ты ўкладаеш у творчасць — і яна табе вяртае. Цалкам, і нават больш. А ў мужчыну чым больш укладаеш, тым менш ён аддае...

Я не разумею, чаму жанчыны прысвячаюць некаму жыццё, пакутуюць. А дзеля чаго? Для мужчыны, у адрозненне ад жанчыны, галоўнае — тое, што ён робіць. І ён атрымлівае задавальненне ад сваёй працы, ад прыбыткаў свайго бізнесу ці ад грамадскага прызнання. Ён рэалізуе сябе. Мне было зусім незразумела, чаму мужчыны, якія мне трапляліся ў жыцці, хацелі, каб я ім увесь час дапамагала, стварала ўмовы. Яны хацелі ўвесь час прыстасавацца. Мы неяк памяняліся якасцямі. Ува мне былі мужчынскія якасці, бо мне трэба было вырашаць усе пытанні за сябе і за іх, а ў іх — жаночыя...

●

— Апошнія гады, дакладней з таго часу, як пачалася перабудова, я асабліва ў госці не хаджу. І да сябе не запрашаю. Чаму? У госці ісці — трэба хоць нейкі падарунак купіць, а без яго няёмка. Але ў мяне такой графы, такога раздзела ў бюджэце няма. Што тут купіш, калі думаеш, як гэта да зарплаты дацягнуць? А да сябе запрашаць — таксама нечым частаваць трэба. А чым тут частаваць? Хоць бы на сваю сям'ю хапіла. Успомніце апавяданне Змітрака Бядулі "Пяць лыжак заціркі" — гэта ж несмяротны твор! Колькі часу прайшло ад яго, як ён напісаны, — а якая актуальнасць!



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

**Настаўніца пачатковых класаў:**

— Калі ішла хваля беларусізацыі, стаўленне і бацькоў, і дзетак да беларускай мовы было зусім іншае. Быў энтузіязм, была вера... А цяпер? Бацькі маюць права выбіраць, на якой мове дзеці будуць вучыцца. Я не магу пераканаць бацькоў, што дзеці ў пачатковай школе павінны вучыцца па-беларуску, хоць я вельмі хацела, каб так было. Рэчаіснасць іх не пераконвае.

Усе разумеюць, што трэба англійскую мову вучыць, што трэба камп'ютэрам авалодваць. Што гэта прэстыжна, што гэта перспектыўна. Што за гэтым будучыня. А пачынаю бацькоў пераконваць, а яны мне: "А дзе яна ў горадзе? Дзе яе пачуць? Яна нашым дзецям спатрэбіцца?"

Нядаўна выпускала свой чацвёрты клас. Мы з імі ранішнікі рыхтавалі па-беларуску, святы па-беларуску праводзілі... Узяла новых дзетак. На першых уроках імкнуся, каб ішло засваенне лексікі. Гучаць новыя словы... Я прамаўляю, а яны смяюцца, не разумеюць, бо гэтых слоў ніколі не чулі...

Увогуле са школы настаўнікі літаральна бягуць. Пацікаўцеся ў нашай адміністрацыі, колькі настаўнікаў сышло толькі за апошні год. Уцякаюць куды заўгодна — на прадпрыемствы, у фірмы. Бывае, цэлую чвэрць настаўніка няма, бывае, паўгода... Малады спецыяліст з вышэйшай адукацыяй атрымоўвае 12-15 тысяч. На гэтыя грошы можна хаця б самому пражыць? На дзвярах бліжэйшага да школы магазіна абвестка — шукаюць грузчыка. Зарплата 44 тысячы плюс прэміяльныя. Мы пераконваем сваіх вучняў, што трэба вучыцца, пераконваем у неабходнасці адукацыі — і сярэдняй, і вышэйшай, гаворым пра прэстыж ведаў... А ўбачыш такую абвестку — смешна робіцца, і сумна адначасова.

●

**Жанчына-музыкант.** Вярнулася з прэстыжнага міжнароднага фестывалю.

— Уражанне такое, што з цёмнай пячоры цябе на божае святло вывелі. Якое стаўленне да нас было! Якая рэклама, які прыём!

●

Некалькі месяцаў яна была на стажыроўцы ў адной з краін Заходняй Еўропы. Вярнулася, расказвае пра свае ўражанні:

— Можна толькі захапляцца тым, як яны жывуць, як у іх вырашаюцца побытавыя праблемы. Але, як ні дзіўна, культурнае жыццё цікавейшае тут. Тут больш падзей, больш энтузіязму. Хоць мы нашмат бяднейшыя... Там ніхто лішняй ноты не сыграе. Роўна столькі, колькі дамоўлена. І ніхто табе творчую работу там прадастаўляць не будзе. На больш уплывовых пасадах — свае. І гэта, напэўна, натуральна. Цікавейшае забяруць сабе, а табе пакінуць работу тэхнічную, якая застанецца...

**Дзядуля:**

— Мае маленькія ўнучкі некалі трапілі пад чарнобыльскі дождж. У адзін з майскіх дзён 1986 года. Яны тады толькі нарадзіліся... Але ж тады ніхто не ведаў, што дождж — не просты, а радыеактыўны. Хварэлі яны бясконца. Толькі з адной хваробы выпаўзем, другая пачынаецца. Немагчыма! Дактары параілі дачцэ — з'язджайце вы, калі хочаце, каб дзеці былі здаровыя.

У дачкі сяброўка з сям'ёй у Галандыі жыла. Прыехала неяк у Мінск. Натуральна, сустрэліся, пагаварылі. І сяброўка прапанавала маёй дачцэ — перабірайся бліжэй да нас. Спачатку мы табе дапаможам, а потым і самастойнай будзеш...

Былі я там, пагледзеў, як яны жывуць. Што вам сказаць? Лішняга нічога няма, але і не галодныя. Дачка не працуе. Дзяўчаты вучацца ў досыць прэстыжных навучальных установах. Вывучаюць адразу па пяць моў — англійскую, французскую, нямецкую, іспанскую і галандскую. Дапамога па беспрацоўю складае ў Галандыі суму, роўную 1200 $. На гэтыя грошы можна знімаць кватэру, вучыць дзяцей у ліцэі або каледжы, купляць адзенне, праўда, не самае дарагое.

Нарэшце харчавацца. Кожны дзень на стале — вялікая талерка з садавінай. Хварэць унучкі перасталі — адразу, як туды перабраліся.

Каб атрымаць грамадзянства, дачка некалькі гадоў хадзіла на курсы. Бо для грамадзянства трэба здаваць экзамены — па гісторыі Галандыі, па літаратуры, мове... Здала, цяпер яна грамадзянка Галандыі. Вяртацца? Не, не збіраецца...

**Р. S. Ад аўтара.** Летам гэтага года газета "Советская Белоруссия" змясціла вынікі сацыялагічнага даследавання, згодна з якімі толькі 3 (тры!) працэнты беларускіх сем'яў маюць бюджэт, набліжаны да еўрапейскага. А гэта значыць, што грошы, якія зарабляюцца, не "з'ядаюцца", не выкарыстоўваюцца толькі на харчаванне, на ежу, а выдаткоўваюцца яшчэ на адпачынак, адукацыю, набыццё рэчаў доўгатэрміновага карыстання, падарожжы. Значыць, 97% беларусаў застаецца вырошчваць бульбу, буракі і моркву на лецішчы або ў бацькоўскай вёсцы.

Сапраўды, далёка нам яшчэ ісці да Беларусі. І да Еўропы наш шлях чамусьці вельмі доўгі і пакручасты. Ці будзем мы там калі-небудзь наогул?

Таццяна МУШЫНСКАЯ



## ЧАСАПІС

# "Вірус адзіноты"




**А ён напаткоўвае ў наш неспакойны час многіх. І ад яго нікуды не дзенешся, але і нельга з ім мірыцца, бо ў такім разе лёгка памерці душэўна, ператварыцца ў тое, што не жыве, а проста існуе. Гэтыя думкі, у той ці інашй ступені, прыходзяць, калі знаёмішся з кнігай Уладзіміра Барысенкі "Вірус адзіноты", што пабачыла свет дзякуючы недзяржаўнаму выдавецтву "Тэхнапрынт". Ва ўступе да зборніка аўтар гаворыць пра свой шлях у літаратуру, пра сваё разуменне паэзіі, пра тое, як з рускай мовы перайшоў на беларускую. Паўда, цалкам яе не адцураўся, аб чым сведчаць і асобныя творы, напісаныя па-руску, што трапілі ў "Вірус адзіноты". Але родная моўная стыхія для У. Барысенкі, як і для кожнага, хто любіць сваю зямлю, не забыўся пра свае карані, гэта магчымасць найлепш выказаць самае запаветнае.**

**"Для мяне Паэзія, — прызнаецца У. Барысенка, - прабачэнне. Я прашу яго ў тых, хто не нарадзіўся, і ў народжаных, якім я, хай і выпадкова, зрабіў балюча. Гэта мая абарона ад смерці, а, значыць, абарона іншых, хоць ад часовага пакутніцтва. Гэта паталагічная сарамлівасць за тое, што камусьці горш, чым табе. Гэта штодзённае адчуванне чужога болю". А завяршае свой роздум-уступ наступнымі радкамі:**

**"Быць паэтам у Беларусі і не пісаць на беларускай мове — гэта злачынства перад Бацькаўшчынай.**

**Я — беларус і ганаруся нашай паэзіяй і літаратурай. Называю толькі сваіх, віцебскіх: Караткевіч, Быкаў, Барадулін, Сіпакоў, Бураўкін, Законнікаў, Вярба, Мяжэвіч, Калодзежны...**

**Мяне хвалюе, як будуць развівацца наша культура і мова, як пойдзе нацыянальнае Адраджэнне. Прыняць у гэтых працэсах актыўны ўдзел — мой абавязак і гонар".**

**Кніга "Вірус адзіноты" складаецца з некалькіх раздзелаў. Выступае У. Барысенка і як паэт, і як празаік, прытым гэта творы як "сур'ёзныя", так і гумарыстычныя. А У. Барысенка-паэт — аўтар не толькі вершаў, а і паэм, адна з якіх "Капсула часоў" названа аўтарам "памяць-паэма" і прысвечана У. Караткевічу, а ў творы паяднаны воблікі Францыска Скарыны і таго ж У. Караткевіча, а тым самым праходзіць думка аб непарыўнай сувязі зробленага гэтымі двума выдатнымі ўраджэнцамі Віцебшчыны, якія шмат зрабілі дзеля духоўнага адраджэння свайго народа.**

**Але ў большасці паэтычных твораў У. Барысенка ідзе ад уласнага жыцця, прамаўляючы тое, што яго непакоіць, трывожыць, стараецца ачысціцца ад выпадковага. Аб сваёй паяднанасці з лірычным героем ён так прамаўляе ў вершы "Лірычны герой":**

*Няма знаць — як, шаноўныя шукаць*
*лірычнага героя ў маіх вершах?*
*Вычытваць, ветрыць носам ды гукаць*
*стаміўся й крытык тут*
*ужо не першы...*
*Анічагусенькі ж складанага няма,*
*ён побач, не за морам, за гарой,*
*зрабіла так паэзія сама,*
*што я і ёсць лірычны той герой.*

**Душа ж шукае пастаяннага прыстанішча і незаўсёды знаходзіць яго, і ў такія моманты хочацца звярнуцца да самага блізкага і дарагога чалавека, як у вершы "Мама":**

*Там, дзе праца кіруе жыццём,*
*дзе ўспамін пра бальніцу і краму,*
*з шалапутным,*
*бяздарным жыццём*
*ты прытуліш нас, лепшая з мамаў.*
*Проста ж вельмі, а цяжка сказаць*
*прыжыццёвыя цёплыя словы,*
*каб цяплей было век дажываць,*
*скрухі й болю забраць каб палову.*
*Так мне крыўдна,*
*шчымліва, няроўна,*
*бальшачкі і сцяжыначкі клінам,*
*замест слоў тых спытаю раптоўна:*
*ты якім лічыш, мама, мяне сынам?..*

**Відаць, гэтае душэўнае непастаянства часам прыводзіць і да таго, што аўтар страчвае пачуццё меры і тады ў асобных творах, асабліва ў раздзеле "Барыспеўкі", праходзіць звычайная грубасць.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# "Расшчапіла мяне жыццё..."

РОЗДУМ НАД КНІГАЮ

Кніга В. Куксы "І верыла ў цуд...", "Бібліятэка часопіса "Маладосць", 1999 г. — адважная спроба пісьменніцы далучыцца да разумення сутнасці быцця, неўтаймаванае жаданне згарманізаваць няпросты шматгалосы і шматзначны свет. "Мінулася. Пройдуць яшчэ гады, а я ўсё буду нагадваць сабе клубок дзіўна зматаных нітак. Калі яго пачаць размотваць, то нітка раскручваецца не зверху клубка, а з яго сярэдзіны. Клубок меншае, меншае, звонку нібыта застаецца нязменным... Чым запаўняецца нутро?" Удумваюся ў разважанні гераіні В. Куксы і прыгадваецца мудрае выказванне Л. Талстога, які аднойчы сказаў: "Дастаеўскі, я, вы і ўсе, хто шукае ісціны, стаім на перыферыі круга, а ісціна недзе пасярэдзіне. Рознымі шляхамі набліжаемся мы да яе". Сапраўды, кожны з нас шукае свой шлях набліжэння да ісціны. Для берасцейскай пісьменніцы — гэта пошукі "сцяжынак паразумення" (выраз Ніцшэ) да людскіх сэрцаў. Іх складанае перапляценне і састаўляе змест кнігі. Як спрычыніцца да пазнання вялікай таямніцы жыцця і смерці? У чым сэнс з'яўлення чалавека на гэтай грэшнай зямлі, што можна зрабіць для сябе, для сваіх дзяцей, для ўласнага народа, які пастаўлены гістарычным лёсам на мяжу свайго этнічнага знікнення? Што вышэй і чысцей — сям'я без кахання ці каханне без сям'і, які шлях абраць, калі гэтыя паняцці непрымірымыя?

Галоўная гераіня твора Тамара нарадзілася на гэтай зямлі дзеля таго, каб кахаць і быць каханай. Аднак ёй давялося перажыць смерць дачушкі, адчуванне віны перад Ганначкаю, што маліла: "Мамка, я паміраю. Уратуй мяне...", знявагу тых, каму невядомае спачуванне, цеплыня, спагада, здзекі таго адзінага, з якім павінна яднаць не толькі радасць, але, у першую чаргу, страта і бяда: "Як хацелася расказаць яму ўсё! І як марыла наша дачушка пра шыкоўныя сцэнічныя касцюмы, і пра песні, якія яна збіралася напісаць, і пра паездкі ў дзіўныя гарады (...). Як адну Ганначку адправіць самалётам, а яна забараніла мне плакаць... Так моцна наказала не плакаць, што і да гэтай пары няма і слязінкі". Гераіня не магла зразумець, адчуць, дзе выйсце з таго становішча, у якое трапіла. "Расшчапіла мяне жыццё на дзве палавіны. Бы маланкаю раструшчыла старое дрэва. Адна палавіна чорная, спаленая, так і будзе смуткаваць да скону, а другая — жыць. Жыць..." Але ж як? З нянавісцю не можа, прынізіць сябе, дараваць — не хоча. А побач яшчэ Жэнька. Хто пра яе падумае, хто дапаможа ёй, каб душою не зламалася? Апынуўшыся на мяжы адчаю, безвыходнасці, роспачы, калі "здрада нагрувасцілася на страту", Тамара шукае суцяшэння ў малебным доме, часам узнікаюць думкі аб самагубстве, а ў галаве неадступна б'ецца адно: "жыць... трэба жыць". І раптам "мяккі дотык да пляча". Павярнула галаву. Мая дачушка! Любае маё дзіцятка. Цыбатае, даўгарукае, бы Бурацінка, стаіць каля мяне з місачкай, — Мамка, я супчык зварыла, паеш..." Нешта скранулася ў душы маці. І на імгненне ёй стала цёпла і спакойна.

Трагедыя, праз якую давялося прайсці гераіні, дапамагла Тамары, а разам з ёю і нам, чытачам, як сведкам гэтай драмы, далучыцца да непахісных, вядомых аўтару аповесці "І верыла ў цуд..." асноў быцця: над усім пануе вечнасць. Трапіўшы ў атмасферу вечнага — нараджэння, страсці, смерці — чалавек становіцца вышэй за сябе, духоўна ўзбагачаецца. В. Кукса па-мацярынску, па-жаночу хвалюецца за лёс кожнага з нас. Яна перажывае, каб мы век не пачувалі сябе ўкрыжаванымі, каб душа наша была неўміручая. Аб правамернасці выказанай намі думкі сведчыць эпіграф да аповесці:

— Адкуль ты ідзеш?
— З вечнасці.
— Куды?
— У вечнасць.

Нехта з абачлівых чытачоў можа мне запярэчыць: гэты твор не пра каханне. А ў якасці доказу прывесці наступны факт: у аповесці няма ніводнай любоўнай сцэны, роўнай па сіле эпізодам, дзе расказваецца пра духоўнае яднанне Ганначкі і маці. В. Кукса праз адчуванні вагітнай перадае інтымнасць ўзаемадносін маці і дачушкі: "Сукенка мокрая, прыліпла да жывата і ног, а я смяюся. І ты варухнулася. Я так любіла, калі заварушышся, бо ціхенька там ляжала. А я табе ўсё-ўсё расказвала..." Моцная духоўная повязь, што звязвала іх, надзяліла жанчыну здольнасцю прадчування. Дзяўчынка яшчэ жыла, але "відзенне", якое аднойчы ўбачыла Тамара, прадказала, што няма на свеце такой сілы, што здолее ўратаваць яе дачушку. "І раптам бачу: з майго цемечка вылецела малюсенькая кропачка, бы прасянное зярнятка. І паляцела ў кут. Прашыла сцяну і пачала стромка падымацца ў неба. Чым вышэй падымаецца, тым ясней — больш на мяне, чым на Ганначку, — шырыцца сноп святла. Бы пражэктар. Мне зусім не страшна, а спакойна, бы расцы ў вадзе. Я не варушуся. Не хачу, каб знікла".

Пісьменніца прымушае нас у першую чаргу пранікнуцца мацярынскімі пачуццямі Тамары, а не любоўнымі. Ды і ў паказе ўзаемаадносін галоўнай гераіні з яе мужам В. Кукса адбірае тыя эпізоды, дзе пераважае няшчасце, быццам толькі яно і мела месца ў жыцці жанчыны. Яе гераіня не магла не адчуваць, што дух барацьбы, пратэсту непазбежна разбурае саюз закаханых. Тым не менш найчасцей менавіта яна дае першы штуршок да ўсіх сварак.

Трагічная постаць у гэтай аповесці — Тамара. Ёй нельга не спачуваць, але ж і яе мужа можна зразумець. Страшны боль, бездапаможнасць, адзінота ахапілі бацьку, калі даведаўся ён, якое няшчасце абрушылася на яго любімую дачушку. Слёзы пакаціліся па яго твары. "Мама, я не ведала, што бацька любіць мяне", — гаворыць Ганначка. Чаму ні разу ў сэрцы Тамары не ўзнікае пачуццё сімпатыі да гэтага чалавека, наадварот, пісьменніца імкнецца падкрэсліць, што па духоўным узроўні ён быў значна ніжэйшы за Тамару? Дзе парвалася тая моцная духоўная повязь, што звязвала іх больш васемнаццаці гадоў? Чаму не падзялілася Тамара сваёй бядою з мужам ужо ў першы дзень, а замест гэтага абразіла яго недаверам, хаця менавіта гэту якасць Тамара найбольш не прымала ў людзях: "Мо я і памылялася, але ўжо ведала: па слабасці сваёй духоўнай пакіне нас". Гэтымі словамі Тамара як бы запраграмавала паводзіны свайго мужа. Яна імкнулася ў ім убачыць прычыну ўсіх сваіх крыўд. І як вынік — "Калі Ганначка памр. я з табой жыць не буду".

Каханне не можа існаваць без поўнага даверу. Душа мужчыны адчула гэта раней за заклапочанае сэрца Тамары, якая ў пошуках выйсця для сваёй дачушкі, здаецца, кінула выклік усяму свету. Муж Тамары інстынктыўна шукае выйсце, пры якім мажліва было хоць знешне захаваць бачнасць парадку. Пра гора ён спрабуе забыцца ў абдымках нялюбай жанчыны. Пройдзе час, і менавіта каханне да Тамары, а можа, проста хрысціянскі парыў, дапамогуць яму пераступіць праз самалюбства і зрабіць крок насустрач страчанаму (так яму здавалася яшчэ хвіліну назад), але ж такому жаданаму шчасцю.

Чаму ж муж не здолеў атрымаць маральную перамогу, заваяваць жанчыну? Здаец-

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# "Суровы Дант" па-беларуску

"Суровы Дант..." Такое азначэнне вялікаму італьянскаму паэту Дантэ Алігʼеры даў у свой час Пушкін. Сярод мноства эпітэтаў вясёлы і лёгкі рускі геній выбраў менавіта гэты, як найбольш адпаведны і дакладны. У гэтай лаканічнай і вычарпальнай характарыстыцы чытаецца не толькі пачцівая павага і захапленне мужнасцю таленту, але і здаровая зайздрасць саперніка.

Усё сваё нялёгкае пакутніцкае жыццё, усе свае мукі, паражэнні і перамогі Дантэ ўклаў у несмяротную паэму "Камедыя", якую пазней за высокую дасканаласць сталі называць "Боскай". Паэт яскрава, з нечалавечай сілай, апісаў у паэме пекла, чысцец і рай, насяліўшы іх душамі сваіх папярэднікаў і сучаснікаў. У сусветнай паэзіі "Боскую камедыю" можна параўнаць хіба што з паэмамі Гамера. Яе назва стала сімвалічнай. Нават той, хто ніколі не чытаў вялікага фларэнтыйца не-не дый успомніць у адчаі пра пякельныя кругі альбо ў роспачы працытуе аднойчы чутае: "Оставь надежду всяк сюда входящий", працытуе не ўсведамляючы, што паводле Дантэ гэта надпіс на браме пры ўваходзе ў пекла. Я ўжо не кажу пра тое, што "Боская камедыя" стала крыніцай натхнення для многіх пакаленняў пісьменнікаў. (Чаго варты адзін толькі вобраз дантаўскай Біятрычэ!) Многія радкі паэмы сталі крылатымі выслоўямі, паслужылі тэмамі для вершаў і паэм альбо цытатамі да іх, а часам і назвамі твораў. Згадаем хоць бы раман Аляксандра Салжаніцына "В круге первом", том выбраных прозы "Кругі" нашага Яна Скрыгана... Словам, паэзія Дантэ надзейна і трывала ўвайшла ў жыццё чалавецтва, стала неад'емнай часткай яго духоўнага вопыту: вось ужо каля сямі стагоддзяў несмяротны Дантэ водзіць чалавецтва праз Пекла і Чысцец да Раю — праз пякельныя пакуты і ачышчэнне да шчасця ў спадзяванні, што яно ачысціцца і стане лепшым. Шлях Дантэ — гэта, відаць, адзіны шлях да ўратавання душы, але, на жаль, упартае чалавецтва ўвесь час збочвае з гэтага шляху і тым самым ігнаруе ўрокі свайго прарока і павадыра.

Не дзіва, што да "Боскай камедыі" на працягу ўжо колькіх стагоддзяў звяртаюцца перакладчыкі многіх краін і народаў. Кожная развітая літаратура лічыць за гонар мець у сваёй залатой скарбонцы гэтую паэму на роднай ёй мове. Паэма перакладалася і прозай і вершамі. Што датычыць такой багатай літаратуры, як руская, то ў ёй было некалькі перастварэнняў твора Дантэ. Самымі вядомымі былі пераклады Д. Мінаева, Д. Міна і В. Чуміной, але і яны, на думку спецыялістаў, былі даволі далёкія ад высокай дасканаласці арыгінала. Па-сапраўднаму, з усёй глыбінёй зместу, прыгажосцю і складанасцю формы, рускамоўнага чытача пазнаёміў таленавіты майстар перакладу М. Лазінскі, творчасць якога стала адным з узораў расійскай перакладчыцкай школы. І вось нарэшце на парозе двух тысячагоддзяў "беларуская літаратура, — як трапна заўважыў у прадмове да кнігі паэт Янка Сіпакоў, — займела твор, які яна прадчувала, але якога яна пакуль што не мела". Зрабіць пераклад адважыўся (менавіта так, адважыўся!) наш вядомы паэт Уладзімір Скарынкін. Перш, чым зрабіць такі мужны крок, ён багата папрацаваў на нялёгкай ніве мастацкага перакладу. Дзякуючы ягоным намаганням, загаварылі па-беларуску многія рускія, украінскія і малдаўскія паэты. Загаварылі натуральна і нязмушана. Прачытайце ў перастварэнні Скарынкіна самага тонкага, даверліва-ранімага рускага лірыка Мікалая Рубцова і выкшталцонага віртуоза ўкраінскага верша Міколу Вінграноўскага і вы пераканаецеся ў гэтым.

Крыху вышэй намі згадваўся бліскучы, ці як сёння любяць казаць, выбітны пераклад М. Лазінскага. Пры жаданні дасведчаны чытач можа лёгка ўпэўніцца, што пераклад расійскага майстра і пераклад нашага У. Скарынкіна істотна розняцца. Гэта абсалютна самастойныя рэчы. Давайце для прыкладу параўнаем шырокавядомыя радкі:

***Земную жизнь пройдя до половины,***
***Я очутился в сумрачном лесу,***
***Утратив правый путь во тьме долины.***

**Пер. М. Лазінскага**

***У час цяжкі, у момант паваротны***
***Свайго жыцця, згубіўшы верны шлях,***
***Я трапіў нечакана ў лес дрымотны.***

**Пер. У. Скарынкіна**

Ці вось гэтыя, не менш вядомыя:

***Был правдою мой зодчий вдохновлен.***
***Я высшей силой, полнотой всезнанья***
***И первою любовью сотворен.***

***Древней меня лишь высшие созданья,***
***И с вечностью пребуду наравне.***
***Входящие, оставьте упованья.***

**Пер. М. Лазінскага**

***Вялікі дойлід збудаваў вароты***
***Ў падземны горад і яго муры***
***Па праву ўлады, розуму, пяшчоты.***

ца, ён рабіў усё гэта шчыра. Мажліва, прычына ў самой Тамары. Адчуўшы сябе раніцаю "недаравальна шчаслівай" (выраз Л. Талстога), яна яшчэ мацней адчула віну перад Ганначкаю. Яна жывая, жаданая, а дачушцы ніколі не спазнаць шчасця кахання. А мажліва таму, што са смерцю дзяўчынкі, сваёй крывінachкі, жанчына страціла той мацярынскі пачатак, што надаваў ёй мудрасць, пяшчоту, мацаваў яе душэўна, рабіў мацнейшай за мужчыну. "Я стала другая. Жорсткая, злая, я прагла помсты. Я б знішчыла ўсіх, хто здзекуецца з мяне. Біла б, трушчыла, паліла, душыла. І толькі радавалася б ад таго".

Не думаю, што сэрца мужа не здрыганулася ад спачування да Тамары, што яму не захацелася яе супакоіць, але крыўда не дазволіла яму зразумець, што гэта не яго любая Тамара крычыць, а яе спакутаваная душа, яе мацярынскі боль. Зрабі крок насустрач — і пачне ажываць яго Тамара. Яна яшчэ не разумее, што патрэбнасць кахаць мацней за яе: "І нават краёчкам розуму не падумала, што кладу сваю галаву на калоду і самаруч замахваюся сякераю. Я думала, што я моцная". У апавяданні "Кафедра сімвалаў" пісьменніца паглыбляе дадзены матыў. В. Кукса паказвае, як яе гераіня Жанна вучыцца любіць па Божым запавеце, але цвёрда прынятае рашэнне разбурацца неадольнай сілай і глыбінёй пачуццяў, і яна скараецца лёсу.

Пісьменніца не ідэалізуе, не паэтызуе сваіх гераінь. Але і не асуджае ні Тамару, ні Жанну. Аўтар паказвае, як тыя балючыя працэсы, што адбываюцца ў душы гераіні аповесці "І верыла ў цуд..." і гераіні апавядання "Кафедра сімвалаў", згладжваюць іх словы і ўчынкі. Мы становімся сведкамі бездапаможнасці маладых жанчын перад логікай жыцця і страсці.

Нагадаем нямецкую прыказку: "Моцны хістаецца да таго, як прыняць рашэнне, а слабы пасля таго, як яно прынята". Чалавек слабы, але ў тым сэнсе, што ён не здольны быць мацней за жыццё, аднак у хвіліны найбольшай для яго небяспекі чалавек здольны стаць дужым. Як слушна заўважае пісьменніца ў аповесці "І верыла ў цуд...", душа наша тоіць вялікую жыццядайную сілу і па кроплі выдзяляе нам кожны дзень. Неабходна проста навучыцца яе слухаць. "Яна такая чуйная, наша ўласная душа. Яна шмат бачыць і папярэджвае нас, ды мы, ацяжараныя турботамі, памкненнямі, марамі, выдуманай сілай над светам. адчуваем яе — але не чуем. Нават не прыслухоўваемся". Выпрабаванне смерцю, адзінотаю робіць гераіню аповесці духоўна моцнай. Яна здольна пакаяцца перад жыццём: "Божа! Якія мы эгаісты падчас бяды! Я ніколі не думала, што яму таксама цяжка, і ён таксама чакае спачування, шукае некага, хто б яго пашкадаваў і паслухаў. Радасць, якая выпадала нам у жыцці, мы яшчэ так-сяк дзялілі, а вось гора — не змаглі. Кожны трываў сам па сабе".

"— Ты, як промень, прыціхлы быў,
А над нашым асмяглым летам —
Страсны голас планеты:
"Палюбі!.. Палюбі!.." —
спявала Ганначка.

— Мама, бачыш, як Ніна Мацяш моцна сказала: планета просіцца, каб палюбілі, ад усяго ліхога абаранілі. Ад Чарнобыля, напэўна".

Гэтыя словы невыпадкова ў аповесці вымаўляе дзяўчынка. Нашы дзеці раней за дарослых адчулі, якой катастрофай пагражае чарнобыльская бяда. А дзяржава, па віне якой адбылася гэтая катастрофа, не спяшалася крычаць сігнал "SOS". Дык хто "Радзіма для Тамары": родная маці ці злая мачыха? Не, маці не аддае сваіх дзяцей на пакуты, а разам з імі змагаецца з непапраўнаю бядою. Гэта яскрава бачна на прыкладзе лёсу галоўнай гераіні аповесці.

Валянціна Кукса працуе ў дзіцячым садку ў горадзе Брэсце. Яна імкнецца, каб яе выхаванцы раслі ў атмасферы цеплыні, даверу, шчырасці, каб кожны адчуў сябе асобаю, бо разумее: "пагрозай, страхам можна падпарадкаваць чалавека, але не заўсёды, а галоўнае: не назаўжды!" Свае думкі, перажыванні па праблемах выхавання, адукацыі ўкладвае берасцейская пісьменніца ў вусны сваёй улюбёнай гераіні Насці з апавядання "Кафедра сімвалаў". Душа Насці, як і В. Куксы, баліць за стан роднай мовы: "Хто толькі не ленаваўся таптаць нашу зямлю! Але пакуль мы не навучымся шанаваць самі сябе — ніхто нас не пашкадуе". Вобразу Насці пісьменніца супрацьпастаўляе вобраз яе настаўніка Паўла Сцяпанавіча. Гэта разумны, таленавіты выкладчык, але па сваім светапоглядзе чыноўнік. Ад вырашэння жыццёвых праблем ён адхіліўся. Проста адлюстроўвае іх на паперы. Ці здольны такі чалавек дапамагчы людзям шукаць першапрычыну іх бед, калі для яго сэнс жыцця заключаны ў імкненні захаваць бачнасць шчасця, поспеху? Вось чаму нашы сімпатыі, як чытачоў, аддаюцца Насці, Тамары, Ганначцы і ўсім добрым "людынкам", з якіх "пачаўся адлік дабрыні, спагады, спачування людскога" для гераіні і аўтаркі аповесці "І верыла ў цуд...".

Душа гераінь В. Куксы моцна, страсна бунтуе супраць бесчалавечнасці грамадства, дзе нам, як іранічна заўважае пісьменніца, "так лёгка жывецца", бо ў нас адзін думае за ўсіх, а ўсе думаюць — як адзін". У гэтым нам бачыцца адна з прычын непрыняцця жыццёвай пазіцыі гераінь некаторымі людзьмі. Не дзіўна, бо існаванне асобы заўжды цяжка пераносіцца тымі, каго можна ахарактарызаваць адзіным словам — натоўп.

Аповесць Валянціны Куксы "І верыла ў цуд..." і апавяданне "Кафедра сімвалаў" выклікаюць у нас безліч думак, уяўленняў, сумненняў, меркаванняў... Важна, што ў гэтых творах мы знаходзім сваё, знаёмае, але адначасова адкрываем вечныя і, на жаль, недаацэненыя намі жыццёвыя ісціны.

**Ніна БОРСУК**

Кнігарня

# Вандроўкі душы і сэрца...

Калісьці на пачатку XX ст. Аляксандр Блок пісаў маладому Сяргею Ясеніну: "За кожны свой крок рана ці позна прыйдзецца даць адказ, а ісці цяпер цяжка, у літаратуры, бадай што, яшчэ больш цяжка..." Творчасць паэтэсы Марыны Наталіч у гэтым сэнсе — не выключэнне. Нарадзіўшыся на Далёкім Усходзе, ужо каля трыццаці год яна жыве на Беларусі, піша па-руску. "Я знаю, как это больно, В чужую землю врастать", — прызнаецца паэтка. Чарговым яе крокам у літаратуры стаў выйшаўшы на мяжы стагоддзяў зборнік вершаў "Странница". Дзякуючы руплівасці выдаўцоў "Кнігазбора", кніга атрымалася цэласнай. Выкарыстаная ілюстрацыя з літаграфіі Н. Ганчаровай "Паслушніца" як найлепей падыходзіць да агульнага гучання вершаў, увасабляючы глыбокі падтэкст.

*На путях земных не сбиться*
*Я молюсь*
*И не прельститься*
*Жадным зовом бытия.*

*В выси горные стремиться*
*Нам с тобой —*
*Душа-сестрица,*
*Странница моя.*

Вершы новай кнігі прасякнуты глыбокім драматызмам, часам — трагедыйнасцю. Тэматычны дыяпазон вершаў вызначаецца не столькі аб'ёмнасцю, шырынёй, колькі глыбінёй, што дасягаецца рознымі паэтычнымі сродкамі, у першую чаргу — своеасаблівай аўтарскай манерай стварэння вобразнай структуры вершаў, часта заснаванай на народна-песеннай традыцыі. Вобразы птушкі, дрэва, лесу, дарогі — з той жа фальклорнай плыні, толькі сацыяльна і духоўна ўскладнёныя, "асучасненыя". Пошукі шляху да ісціны, сваёй дарогі звязаны з вялікімі душэўнымі затратамі, часта — з пакутамі і болем.

*Мой путь иной на горные вершины,*
*Где жизнь и смерть едино-неделимы,*
*Где истины высокая цена*
*Страданьем и свободой рождена.*

Аўтарскі "голас душы" пранікае ва ўсе закуткі свядомасці і цалкам авалодвае чытачом, закранаючы адвечныя пытанні: жыццё і смерць, каханне і здрада, самота душы ў людскім моры. Увогуле, вобраз душы, адзінокай "в безбрежности мира", якая "стремится сквозь века, Не смея отдохнуть", неабароненай перад хлуснёй, подласцю, карысцю, — адзін з галоўных у зборніку. Яна — у пастаянным руху: "мечется", "корчится", "отлетает", не знаходзячы суцяшэння і гармоніі ў Сусвеце:

*И мечется душа*
*В земном непостоянстве,*
*Страшась заледенеть*
*На звездном сквозняке.*

"Галоўнае, без чаго немагчыма ўявіць сабе паэта, — пісаў У. Караткевіч, — гэта добрае, шырокае сэрца, адкрытае ўсім радасцям і гаротам, усяму дабру і злу свету. Гэтае сэрца не можа быць абыякавае. Яно смяецца з людзьмі, шкадуе і любіць іх, і кожны боль кожнага чалавека асядае на яго, як на растрывожаную, адкрытую рану". Менавіта такое, як дотык да агаленага нерва, успрыманне навакольнага свету характарызуе светабачанне аўтара. "И нет мне покоя На горе людское", — заканчвае адзін з вершаў паэтка, чыё сэрца, шмат перажыўшае, у прамым сэнсе фізічна адчувае боль, пакуты, смерць блізкіх. Уражвае дзіўная блізкасць паэтычных інтанацый М. Наталіч і "астральнай" паэзіі М. Цвятаевай. Імкненне апошняй "все понять и за всех пережить", жаданне ў хвіліны безвыходнасці вырвацца, адляцець: "Понимаешь, что из тела — вон — хочу?" — надзвычай сугучны светаўспрыманню М. Наталіч:

*Душа покинула меня,*
*своe дитя неумелое,*
*Гулко и холодно в доме заброшенном.*
*Куда бы ни шла*
*и что бы ни делала —*
*Горе мне, брошенной.*
*И только одно, что она возвратится,*
*Кажется праздником предстоящим.*
*Я верю —*
*она уходила трудиться —*
*В прошлом, и будущем,*
*и настоящем.*

Кніга, кампазіцыйна грунтоўна прадуманая, успрымаецца як мастацкая галерэя: хвалюючыя дакладныя замалёўкі, сімвалічныя гравюры, маляўнічыя фрэскі мінулага і сучаснага, выразныя партрэты, цудоўныя пейзажы, цэлыя карціны, дзе гук, колер, лёгкасць і імгненнасць думкі — дасягаюць моцнага эфекту эмацыянальнага ўздзеяння. Паэтычнай манеры аўтара ўласцівы сінкрэтызм, кантрастнасць. Мяккія, узнёсла-лёгкія, лірычныя інтанацыі, больш уласцівыя першай частцы зборніка "Ушедшая осень", перамяжаюцца з абвостранымі, жорстка-балючымі, але пераважаюць элегічныя, сузіральна-філасофскія вершы, дзе кожны з іх — невялікая гісторыя, штрых да агульнага ўспрымання Сусвету. І за гэтымі мазкамі паўстае карціна жыцця, амаль відавочная, дзе змешчана палітра самых разнастайных колераў: ад цёплых асенніх, прыглушаных да зімова-халодных, "заледзянелых". Характэрна з'яўленне ў другой частцы кнігі "Птица, странница, страница..." гэтых самых "ледзяных" інтанацый. Унікаючы ў "хвалі" паэтычных строфаў, адначасова спасцігаеш і аўтарскую асобу, і існуючую рэчаіснасць:

*Снега нет который год,*
*Только черный гололёд.*
*Вдоль дорог лежат кусты,*
*Люди, тени и кресты.*

*Расшатались государства,*
*И трещат углы в избе,*
*Трещины пошли в судьбе...*

*Гололед покрыл дороги,*
*Лица, души и пороги...*

У імпрэсіі "Мая душа" рускі класік І. Аненскі пісаў: "Вся вина этой души заключалась только в том, что кто-то и где-то осудил ее жить чужими жизнями, жить всяким дрязгом и скарбом, которым воровски напихивала его жизнь, жить и даже не замечать при этом, что ее в то же самое время изнашивает собственная, уже ни с кем не делимая мука". Калі чытаеш "Странницу", ствараецца адчуванне, што радок нібы "задыхаецца" ад гэтай невыноснасці, пакуты, напружанасці пачуццяў. Вершы М. Наталіч — не крык душы, гэта хутчэй спроба "изжыть" (набокаўскі выраз) сваю душу, зведаць чужую. Як казалі старажытныя рымляне "празмерна нацягнутая струна рвецца", так і некаторыя вершы паэткі, дасягаючы высокага напружання гучання, здаецца, сарвуцца на крык. Але адбываецца процілеглае: радкі нібы супакойваюць, сцвярджаючы пераможнае існаванне адвечных ісцін жыцця: кахання, шчырасці, дабра, дэфіцыт якіх неаднойчы зведаў кожны з нас:

*Мы будем щедрыми на ласку и тепло —*
*Их в мире — мало.*

*Твержу тебе наивные слова,*
*Но всем нам умирать*
*от этой жажды.*
*Гори, любовь, святым огнем добра,*
*Без сожаленья в нем сгорю однажды.*

Біяграфічныя вершы М. Наталіч, у цэнтры якіх вобраз жанчыны, узрушаюць сваёй адкрытасцю, эмацыянальнасцю. Прыём эпісталярнай інтанацыі, лірычнага дыялога і маналога падкупляе шчырасцю, даверальнасцю, дапамагае чытачу "ўключыцца" ў размову, прыцягваючы да споведзі душу.

Жыццёвае крэда многіх паэтаў "Я — где боль, везде" (У. Маякоўскі) становіцца творчым прынцыпам і для М. Наталіч.

Яе рэакцыя на сучасныя катаклізмы нясцерпная, вострая, прарочая. Па эмацыянальным уздзеянні гэтыя вершы гучаць часам больш пераканаўча за многія публіцыстычныя артыкулы:

*Снегом налиты тьмы облаков,*
*Хрупких деревьев дрожащие тени...*
*Как я боялась всегда кулаков,*
*Тех, кто так долго стоял на коленях...*

*Толпам свободных, бездумных, слепых*
*Речи и жизни под ноги стелятся.*
*Делились по классам, по черепам,*
*Теперь и славяне*
*всё делятся, делятся...*

Хочацца адзначыць і вершы, прысвечаныя Прыбалтыцы, а таксама глыбока сімвалічны верш пра вучонага-караіма А. С. Фірковіча "Чуфут-Кале". Паэзія М. Наталіч здзіўляе вытанчанасцю, элегантнасцю, далікатнасцю. Паэтка валодае тонкім слыхам, выключнай уважлівасцю, адметным густам. Патрабавальнасць да слова дапамаглі паэтцы максімальна наблізіцца да "пяшчотнай, асабліва інтэлігентнай душы" Максіма Багдановіча. Дакладныя, усхваляваныя пераклады гэтай "самотнай зоркі" М. Наталіч, якія склалі трэцюю частку зборніка "Мудрого слова мед золотистый..." — сур'ёзны ўклад у літаратурны працэс Беларусі, сапраўдны ўзор паэтычнага пранікнення і аўтарскай смеласці. Пасля прачытання кнігі М. Наталіч становіцца радасна на душы, нават лёгка, як быццам ты пачуў доўгачаканыя адказы.

**Ірына ТАМІЛЬЧЫК,**
**навуковы супрацоўнік**
**Цэнтра імя Ф. Скарыны**

**P. S.** *19 кастрычніка Марыне Наталіч споўнілася 50 гадоў. Віншуем яе з юбілеем і зычым надалей здароўя, творчага настрою і плёну.*

*Ён вечны! І ў сваім манастыры*
*Усталяваў парадак адмысловы.*
*Таму надзей з сабою не бяры.*

**Пер. У. Скарынкіна**

Думаецца, "суровы Дант" быў бы задаволены працай беларускага перакладчыка: гучыць! Уладзімір Скарынкін яшчэ раз пацвердзіў даўно вядомую ісціну, што пераклад — гэта донарства. Той, каму хоць аднойчы даводзілася здаваць сваю кроў, ведае, што гэта такое...

Больш як чатыры гады аддаў паэт працы над дантаўскімі тэрцэнамі-трохрадкоўямі. У "Заключнай песні перакладчыка", напісанай, між іншым, таксама тэрцэнамі, ён прызнаецца:

*У плаванне пусціўся я на стыку*
*Тысячагоддзяў двух і дзвюх эпох*
*Без шуму непатрэбнага і крыку,*

*Спадзеючыся, што магутны Бог,*
*Які раскручвае над намі зоры,*
*Паможа, як не раз ужо памог...*

Як бачым, "без шуму непатрэбнага і крыку" і, вядома, не без боскай дапамогі перакладчыку ўдалося ажыццявіць сваю грандыёзную задуму і тым самым развеяць недавер скептыкаў "і адказаць усмешкай на абразу, што не паддаецца бессмяротны твор на беларускай мове пераказу". Так, факт з'яўлення на нашай мове сусветнага шэдэўра яшчэ раз даказаў, што ёй пад сілу самыя высокія задачы, што яе патэнцыяльныя магчымасці невычэрпныя. Пра гэта яскрава сведчаць "Яўгеній Анегін" у перакладзе А. Куляшова, "Гамлет" у перакладзе Ю. Гаўрука, "Фаўст" у перакладзе В. Сёмухі, "Пан Тадэвуш" у перакладзе Я. Семяжона...

Глыбока сімвалічна, што на стыку двух тысячагоддзяў у гэты славуты шэраг гожа стаў несмяротны твор "суровага Данта".

Дарэчы, італьянцы значнасць гэтай падзеі даўно ацанілі — за пераклад "Боскай камедыі" Уладзімір Скарынкін атрымаў прэстыжную прэмію Італіі.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

# "Роднае слова", N 9

Артыкул М. Яленскага "Вучань — асяроддзе — мова", які адкрывае нумар, змешчаны ў раздзеле "Школа і нацыянальнае Адраджэнне". Багаты на матэрыялы раздзел "Філалогія": "Ваеннае каханне вачамі Васіля Быкава" І. Станулевіч, "Матыў "Раскіданага гнязда" ў творчасці Васіля Быкава" М. Пажарыцкага, "Спрачацца з нябытам" В. Шынкарэнкі (да 60-годдзя К. Тарасава), "З крыніцы піць і не напіцца..." (вобраз крыніцы ў фальклоры і літаратуры) А. Статкевіч, "Мастацкі космас гётэўскага "Фаўста" і яго перастварэнне па-беларуску" Г. Крупкінай (працяг артыкула), "З намі гаворыць вялікі германец" (філасофска-эстэтычная прысутнасць Ёгана Вольфганга Гётэ ў творах У. Караткевіча) Е. Лявонавай, "Цяжкія пытанні марфемнай структуры дзеяслова" З. Бадзевіч, "Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў" (працяг даследавання) Б. Плотнікава, "Слоўнік амаформаў" І. Германовіча, "Глыбінныя праявы літаратуры" А. Карлюкевіча (рэцэнзія на кнігу І. Жука "Сустрэчны рух: літаратуразнаўчыя эцюды", што выйшла ў Гродне). Чытач пазнаёміцца таксама з артыкуламі А. Бельскага "Цудадзейнай жывой вады крыніцы..." (вывучэнне творчасці Максіма Танка ў XI класе), М. Мушынскага "І можам мы табой гардзіцца..." (жыццё і творчасць Якуба Коласа, заканчэнне), Л. Лясун "Гісторыка-патрыятычнае выхаванне вучняў на ўроках беларускай літаратуры", Т. Балдышэўскай "Ад прадзедаў спакон вякоў...", Л. Баршчэўскага "Росквіт еўрапейскай літаратуры ў эпоху Адраджэння", В. Дзям'янка "Уладзімір Караткевіч і кіно", А. Кашкурэвіча "Мой Гётэ", В. Скарабагатава "Фаўст" князя Радзівіла", Т. Шамякінай "Біблія як кніга кніг чалавецтва: Стары Запавет", А. Каваленкі "Паэзія Максіма Танка ў музыцы" і іншымі. Змешчаны вершы Д. Бічэль-Загнетавай, І. Карэнды (да 50-годдзя аўтара), Д. Самойленкі, "Каляндар знамянальных датаў і падзей на 2000 год. Кастрычнік" Я. Саламевіча.

## "Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва"



"Чытаючы творы І. Навуменкі, прыходзіш да высновы, што ўсё ён трымае ў памяці: сустрэчы і ростані, радасці і нягоды, узлёт юначай мары і суровую рэальнасць побыту..." — гэтыя словы Уладзіміра Юрэвіча вынесены на чацвёртую старонку вокладкі кнігі народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі "Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва", якую выдавецтва "Юнацтва" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка". Новыя аповесці Івана Якаўлевіча, як і многія яго ранніх апавяданні, а таксама раманы "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах" і іншыя творы, шмат у чым аўтабіяграфічныя і са старонак іх паўстае лёс аднаго з прадстаўнікоў даваеннага пакалення Васіля Войціка, расказваецца пра яго сталенне, уваходзіны ў вялікі свет жыцця і пра выпрабаванні, якія давялося зведаць у гады Вялікай Айчыннай вайны. Называючы гэтыя аповесці менавіта так, І. Навуменка, відаць, арыентаваўся на "класічны" варыянт. І калі б назваў іх нават "Мае універсітэты" (для гэтага толькі трэба было б у першых двух, як і ў трэцім, перайсці на "я-споведзь"), гэта таксама было б апраўдана. Усё роўна аповед разгортваўся б сваім звыклым ходам — "дзяцінства, маленства, юнацтва". І гэтаксама б паступова галоўны герой крочыў па жыцці. Бо, зразумела, не ў назве справа, а ў тым, што хоць у аповесцях і выкарыстаны пэўныя факты з уласнага жыцця аўтара, усё ж перад намі творы іншага кшталту: не проста біяграфія пакалення, а яго аўтабіяграфія — настолькі аўтар знітаваны са сваімі аднагодкамі. Гэта аўтабіяграфія амаль вынішчанага пакалення.

Словы пра вынішчанае пакаленне з'яўляюцца ў аповесці "Юнацтва", калі Васіль Войцік, прымаючы ваенную рэальнасць як непазбежнасць (а значыць, непазбежнасцю ён лічыць і верагоднасць смерці), разважае пра свой лёс і лёс сваіх сяброў:

"Я не думаю пра смерць. Здаецца, ніхто не думае. Мы не спадзяёмся застацца жывымі, бо вельмі жорсткая ідзе вайна.

У сучаснай вайне матораў, жалеза, кулямётаў чалавек як асоба, адзінка мала што значыць. Вельмі многа прыдумана розных сродкаў ягонага знішчэння.

З лістоў, якія я атрымліваю з дому, ведаю, што і на другіх франтах многа хлопцаў загінула. Вынішчаецца цэлае пакаленне".

Васіль Войцік гаворыць так спакойна, быццам да ўсяго гэтага не мае ніякага дачынення. Ён як бы па-за рэальнасцю, бо даўно з усім звыкся. Дый не да аптымізму, калі наўкола смерць. Калі наўкола *столькі смерці.*

Невыпадкова пачынаю гаворку з аповесці "Юнацтва", таму што дзве першыя (пры ўсіх сваіх мастацкіх вартасцях) у нечым подступы да яе. "Дзяцінства" і "Падлетак" — гэта пачатак жыцця галоўнага героя. І. Навуменка праз успрыманне Васіля Войціка адлюстраваў час вялікіх сацыяльных зрухаў. І калі раней у асобных творах, у якіх закраналася даваеннае жыццё, ён (як і іншыя пісьменнікі), мусіў, па зразумелых прычынах, штосьці недагаворваць, дык цяпер падзеі, у прыватнасці калектывізацыя, "не праходзяць" міма Васіля. І ўсё Васіль Войцік — дзіця свайго часу, і пісьменнік не спрабуе асучасніць яго. Інакш можна было б лёгка пайсці насуперак жыццёвай праўдзе. А праўда ў тым, што Васілёва пакаленне — гэта пакаленне не толькі цяжкіх, а і па-свойму рамантычных гадоў, асабліва для неакрэплых яшчэ душаў. Многае ім бачыцца ў ружовым святле, ім хочацца хутчэй далучыцца да актыўнага жыцця. Будзем справядлівыя: якраз такая ўнутраная падрыхтоўка, вера ў ідэалы, якія цяпер шмат хто называе наіўнымі, і дапамагла гэтаму пакаленню (як і іншым) выстаяць у вайне. А заканчваецца яна і з'яўляецца жаданнем асэнсаваць перажытае па гарачых слядах: "Дзе тыя салдаты? З нашага дзевятага, дзесятага класаў большая палавіна хлопцаў загінула. Відаць, усюды так". Несумненна, юным чытачам будзе цікава пазнаёміцца з гэтымі творамі вядомага пісьменніка. Яны змогуць даведацца праўду, як жылі іх равеснікі, якім давялося ваяваць на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Мікола МЯТЛІЦКІ



# Гнеўныя вершы

## Айчыне

*Няўжо вось так,*
*праз шчыльныя шчыты*
*У вочы нам глядзіш, Айчына, ты?!*
*У шлях на вечным скачучы кані,*
*Мяне, свайго зняможанага сына,*
*Прачула просіш: здрайцаў супыні, —*
*Мая Айчына.*

*Ты ведаеш, заўсёдна мы з табой*
*Адзінаверцы.*
*Я за цябе гатовы весці бой*
*У кожным сэрцы.*

*Але натоўп не чуе слоў паэта*
*І ше яму, угневаны, праклён.*
*Змяшалі воды горка Сцікс і Лета.*
*І над тваім бязмоўем —*
*чую гэта —*
*Чакальна пацяшаецца Харон.*

## Анатолю Вярцінскаму

*Нам па чужое руціць хадзіць,*
*Роднае — чэзласць топча.*
*Сёння прысудна на нас глядзіць*
*Заўтрашняй явы хлопчык.*

*Хлопчык глядзіць...*
*на свет і ў сусвет,*
*Мучаць душу зямныя пакуты...*
*Праведны Божа, які Паэт*
*Табой, Беларусь, не пачуты!*

*Слова яго — пад сэрца б'е*
*Скрутай бядотнай долі.*
*У валунах забыцця твае*
*Леглі, Айчына, два полі.*

*Хлопчык глядзіць...*
*і гаворыць ён:*
*Змогшы такія здзекі,*
*Зараз чаму ў літаргічны сон*
*Ўпалі вы, чалавекі?!*

*Вас ці разбудзіць мой голас жывы,*
*Крушачы сэрцы-ільдзіны?*
*Заўтра, калі прачнецеся вы, —*
*Будзеце без Радзімы!..*

## Замкі Беларусі

*Смела ступаю па крэўскай сцяне*
*Ў ранак ззалелы.*
*Чую, наскрозь працінаюць мяне*
*Памяці стрэлы.*

*На пракаветным вякоў дзірване*
*Шлях чалавечы.*
*З грозных байніцаў бачацца мне*
*Даўнія сечы.*

*Ззумлівы посвіст тугой цецівы.*
*Скачуць тэўтоны.*
*Непераможна ўзносіце вы*
*Веры іконы.*

*Камень валун і абвуглены шпат.*
*Смужныя далі.*
*Дахі бляшаныя сённяшніх хат*
*Зданямі ўсталі.*

*Дзень выплаўляе з тугіх аблачын*
*Воблікі продкаў.*
*Ўзносяцца дзіды. Крышаць мячы.*
*Ядрам тут лётка.*

*Срэбны пад сценамі звоніць ручэй,*
*Цешачы вуха.*
*Тут, на руінах, ўзыходжу вышэй*
*Сэрцам і духам.*
*Сторажу часу кідаю: не руш*
*Памяткі войнаў.*
*Ўстане на гэтых мурах Беларусь*
*Гордай і вольнай.*

## Маскультура

*Светам брыдзеш, як прыблуда:*
*Драпежна, крывава, ашчэрана —*
*Дзецішча Галівуда,*
*Яго ненасытнага чэрава.*

*Пружыцца мускулатура,*
*І аніводнай звіліны.*
*Перад табой, маскультура,*
*Голас культуры — бяссільны.*

*Быццам у коле вавёркі,*
*Над згвалтаваным светам*
*Круцяцца кіназоркі,*
*Цэлячы пісталетам.*

*Кляцае ўсюдна зброя.*
*Візгат і галашэнне.*
*Хціва ідзе скразное*
*Душаў апустошэнне.*

*Свет, дзе брыда бруіцца,*
*Трызніць, жахнуты сконам,*
*Спрабуючы затуліцца*
*Вокладкай "Ціхага Дона".*

## Тады і цяпер

*Ці даўнія гады? —*
*Кашмар не збудзеш гэты.*
*Этапамі тады*
*Праходзілі паэты.*

*Цяпер народ нямы,*
*Чарнобылем жахнуты.*
*Не трэба і турмы:*
*Гаворыш, не пачуты.*

## Элегія

*Пад соснамі хаціна. Член ЦК*
*Тут жыў калісь — кароль тытулаваны.*
*Цяпер зрэдчас унукі-наркаманы*
*Заваляць з хеўрай. Роскат мацюка*
*Плыве над плёсам і вярэдзіць слых*
*Астатнікаў паселішча ляснога.*
*Яны патайна ўмольна просяць Бога,*
*Каб клёк вярнуўся да былых малых,*
*Што выраслі у іх навідавоку,*
*Сапсеўшы так на дзедаўскіх харчах,*
*Іскрынка суму выблісне ў вачах:*
*Бяда ступае побач, у паўкроку.*
*— Адзін з той хеўры тройчы*
*ўжо судзімы!..*
*Мінаюць вёсны. І мінаюць зімы.*
*І запусценне бераг абдало.*
*І час жыццёвай мудрае патолі,*
*Што больш сюды не вернецца ніколі,*
*Ляжыць, як паламанае весло.*

●

*Зноў цешу слых украінскаю мовай.*
*Пявучая, зіхоткая, жывая,*
*Нібы ручэй з Карпатаў крутабокіх,*
*Імкне шапоткай, трапяткою хваляй.*
*Вось цётка, буйнагрудая гуцулка:*
*— Купі, сокіл! —*
*таўхае жменю зернят.*
*Дзядзькі —*
*над піўным кухлем барадатым:*
*— О це було!*
*Дзяўчынкі-шчабятухі:*
*— Каштан цвіте!*
*О Бог, ці дажыву я,*
*Каб мову гэтак*
*Чуць на Беларусі?!*

●

*"Я не папомню зла,*
*Няхай на корні вяне!" —*
*І прымаўка ўзышла*
*Як гэрхадараванне.*

*У свеце, дзе святла*
*Як сонца у каморы:*
*"Я не папомню зла!" —*
*Скажыце ў раз каторы.*

*І, можа, ўпершыню*
*Пачуецца такое:*
*"Я зла не прычыню!" —*
*І больш не кляцне зброя.*

*І ўжо не грукне гром —*
*Ссырэе ў лёжцы порах.*
*Да ворага з дабром*
*Калішні ступіць вораг.*

●

*Шумнаістай зялёнай вясной,*
*Агалошанай птушак спевамі,*
*Прэла чэзне сыры перагной*
*Пад камлісташурпатымі дрэвамі.*

*Так, атросшы ўчарашні бруд,*
*Лес святлынню лісця азорыцца.*
*На вачах тваіх вечны цуд*
*Вечна юнай прыроды творыцца.*

*І ў вільготнай цішы лясной*
*Філасофствуеш, ашаломлены:*
*Ападае жыццё перагной —*
*Рук нячыстых*
*І сэрцаў стомленых.*

## Сябрам

*Да ўморы гутаркі вядзем,*
*Цыгарны дым плыве пад бэлькі.*
*О, колькі вершаў і паэм*
*На дно звалілася бутэлькі!*

*Балюча сэрца пазнае*
*З вяршыні суднае Галгофы:*
*Ляжаць там шчыльна і мае*
*Нікім не бачаныя строфы!*

*Прагал у часе. Пустата.*
*Пакуты творчыя. Замінкі.*
*Штодня пахмельная лухта —*
*Па несатвораным памінкі!*

## Ахвяры

*Так хрусне лёд — і ты ў вадзе па пахі,*
*Сцінаюць пальцы коўзкі беражнік.*
*Эпох разлом.*
*Плывуць, як крыгі, жахі.*
*Глядзіць прысудна з памяці двайнік.*

*Адкрыта пашча чорнага сутоння,*
*У мутнечы той заглыбака да дна.*
*Багата цел ў віры яе патоне,*
*Пакуль крывёй насыціцца яна.*

*Ды хтось над ёй,*
*пазбыўшы спуд, трывогі,*
*Устане годна ў чалавечы рост*
*І ступіць грунтам цвёрдае дарогі*
*Ў будучыню звабную наўпрост.*

●

*Беларусь мая, кветка белая,*
*Ветрам ядзерным крэпка бітая.*
*Анямелая,*
*Абруселая,*
*Як крынічанька панадпітая.*

*Хлеб салёны твой ізатопамі*
*На сталах хацін грозна бліскае.*
*Ліха лічыць скрозь жыта копамі,*
*Нахіляецца над калыскаю.*

*Ці спатолю боль тваёйго цела я,*
*Ці душы вярну духу збытага?*
*Беларусь мая,*
*Кветка белая,*
*Ветрам ядзерным крэпка бітая.*



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

ВІНШУЕМ!

## Уладзіміру ПАЎЛАВУ — 65

**Родам Уладзімір Андрэевіч з вёскі Замошша Любанскага раёна, а ў тамашніх мясцінах здаўна кажуць: у Замошшы — усе людзі харошыя. Што да ўсіх — не ведаем, а наконт У. Паўлава дык гэтае вызначэнне цалкам падыходзіць. Ён — з людзей, якія прыгожыя ўсім: і душой, і сэрцам, і сваімі справамі. А паколькі асноўная справа Уладзіміра Андрэевіча — літаратурная творчасць, дык ён і робіць усё дзеля таго, каб нацыянальнае прыгожае пісьменства станавілася яшчэ больш прыгожым, а значыць — вартым чытацкай увагі. А працуе У. Паўлаў у розных жанрах. Але найперш за ўсё ён паэт. З першым вершам выступіў у 1954 годзе на старонках газеты “Піянер Беларусі” (сённяшняя “Раніца”). Год паэтычнага дэбюту Уладзіміра Андрэевіча —заканчэння ім Дарасінскай сярэдняй школы, пасля якой працаваў літработнікам любанскай раённай газеты “Кліч Радзімы”, служыў у арміі. У. Паўлаў скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1962). Загадваў аддзелам літаратуры і мастацтва рэдакцыі газеты “Чырвоная змена”, быў адказным сакратаром у гэтым выданні, а пасля — адказным сакратаром кінабюлетэня “На экранах Беларусі”, літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, загадчыкам рэдакцыі паэзіі, затым збору твораў і выбраных твораў выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Арганізатарскія здольнасці Уладзіміра Андрэевіча, яго душэўнасць, чуласць асабліва раскрыліся тады, калі ў 1990 годзе быў выбраны намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, а праз чатыры гады перавыбраны на чарговы тэрмін. Нягледзячы на турботнасць паўсядзённых клопатаў, заўсёды знаходзіў час займацца літаратурнай творчасцю. У. Паўлаў з’яўляецца аўтарам кніг паэзіі “Узлётная паласа”, “Далягляд”, “Светацені”, “Начная балада”, “Сонца купаецца”, “Каласы радкоў”, “Сляза на вейцы” і іншых. На яго творчым рахунку — зборнікі аповесцяў і апавяданняў “Годы нашы — птушкі”, “Ад агню да мяча”, а таксама кнігі для дзяцей. Упэўнена адчувае сябе Уладзімір Андрэевіч і ў галіне перакладу, пераўвасобіўшы па-беларуску раманы Я. Фельдзака “Чужая дачка”, У. Багамолава “Момант ісціны” (“У жніўні сорак чацвёртага”) і многія іншыя творы. Прызнанне заслуг У. Паўлава перад беларускай літаратурай — прысваенне яму ганаровага звання лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.**

**З 65-годдзем, шаноўны Уладзімір Андрэевіч! Няхай і надалей Вам хораша жывецца і пішацца, а ваш яркі талент служыць на карысць Беларусі, роднага народа, нацыянальнага Адраджэння!**

Уладзімір ПАЎЛАЎ

# ТЫ МЯНЕ ЗНАЕШ



АПАВЯДАННЕ

Маршавая рота прыбыла нацямку. Гадзіны ў тры раніцы, можа, крыху раней, бо ўсю ноч імжэў цёплы летні дождджык і было пахмурна, асабліва ў лесе, які акаймляў паляну, на якой яна спынілася.

Яна спынілася за штабам палка, зямлянкі якога хаваліся пад векавымі соснамі недзе за паўкіламетра ад лініі фронту.

Па ўсім відаць, людзі стаміліся, бо ішлі ўсю ноч ад бліжэйшай станцыі, куды іх прывёз цягнік, а станцыя, на добрую нагу, — гэта некалькі гадзін ходу.

Была каманда “вольна”. Салдаты ў страі адкідвалі з галавы капюшоны плашч-палатак, расшпільвалі драўляныя біркі, якіх вайна замест гузікаў наўшывала ўсюды, нават у споднiках, паслаблялі ссуканыя матузы на плячах. Вось-вось павінна было выкаціцца сонца, праменнем прабіцца праз верхавіны дрэў, упасці на грудзі вайскоўцаў і бліснуць на латунных медалях. Многія салдаты іх мелі — “За баявыя заслугі” і асабліва дарагі кожнаму “За адвагу”. Многія былі з нашыўкамі чырвоных і жоўтых палосак матэрыі — адзнак за цяжкія і лёгкія раненні.

Капітан Івановіч і старшына Фішман, што стаялі воддаль ад століка, вынесенага насупраць строю маршавай роты, бачылі светлыя кружочкі медалёў на грудзях у салдат і цьмяныя нашыўкі. А яны былі амаль у кожнага. Значыць, людзі паваявалі ўжо, панюхалі пораху, паляжалі ў шпіталях. Ляжалі ў шпіталях і капітан Івановіч, і старшына Фішман. Трэба сказаць, што там, асабліва падалей ад медсанбатаў, існавалі свае правілы і парадкі, нібы ўсё адбывалася ў нейкай ненатуральнай, іншай дзяржаве, што напачатку вельмі дзівіла. Нібы вайна ішла недзе далёка, не на нашай зямлі, а туды, у тылавыя шпіталі пастаўляла толькі матэрыял, давала работу медыкам і многім людзям каля іх. Нездарма кажуць: каму вайна, а каму маць радна́. Некаторыя ўмудраліся паправіць свае справы, падправіць уласны лёс, як правіла, на чужым горы. У шпіталі прыходзілі не толькі піянеры і, так сказаць, афіцыйныя шэфы. У дварах і ў скверыках пастаянна можна было сустрэць і жанчын з горада. Усіх узростаў. І далёка не ўсе яны былі ўдовы, якіх кожны дзень множыла вайна. І кожную з іх можна было зразумець, асабліва ўдаву. Яна, небарака, падсеўшы на лаўку да таго, хто пачаў папраўляцца і ўжо сам выпаўз на вуліцу, частавала яго чаркай, небагатай закуссю і пасля першага-другога кілішка без лішняй дыпламатыі прапаноўвала ісці да яе за мужыка. Няважна, бязрукі ты ці бязногі. А той-сёй і рады: куды дзенешся, як цябе падлечаць ды выпішуць — твой жа дом пад немцам. Ну, а з гарапашніцамі, за многімі з якіх цягнулася па вывадку дзяцей, а на бацьку іх даўно прыйшла пахавальная, справа ясная. Як-ніяк, а пенсія бязрукага ці бязногага — падмога ў сям’ю, ды і дзецям бацька, мала што няродны. Урэшце, можа, каму і за роднага мудрэй стане, у жыцці ўсякае бывае.

Капітана Івановіча і старшыну Фішмана абурала іншае. На фронт са шпіталяў ірваліся маладзенькія санітаркі, медсёстры, учарашнія школьніцы, — гэтак жа, як ірваліся на вайну, абівалі парогі ваенкаматаў іх равеснікі-хлопцы, многія з якіх ужо загінулі. Вось дзяўчаткі і хацелі помсціць за сваіх Коляў, Васяў, Валераў. Ім думалася, што немцаў так доўга не могуць перамагчы толькі таму, што няма на фронце іх, маладых, дужых і сумленных. Не такіх, як во гэтыя. Пад гэтымі меліся на ўвазе некаторыя з дактарак, што хадзілі ў перастарках, несімпатычных, ці проста квазімодаў. Яны былі хітрыя, скрытныя. Выбіралі сярод параненых мужыкоў мускулістых і пры добрым званні. Будучы неблагімі псіхолагамі, выбіралі такіх, у якіх рэдка памыляліся, каму свой дабрабыт быў вышэй за ўсё, а пра здароўе і гаварыць няма чаго. Хай свет хоць дагары нагамі, а ён яго ўберажэ, не ахвяруе ні савецкай уладзе, ні нават таварышу Сталіну. У такія моманты трэба асцярожна азірнуцца, ці хто не падслухаў крамольных думак.

Во такім квазімоды і ўстанаўлівалі інвалідныя групы, пазбаўлялі фронту, жанілі на сабе. Аж плюнуць хочацца!

А многія, вельмі многія рваліся на фронт.І не адпаведна прымаўцы: хоць галава ў кустах, затое грудзь у крастах. Не, такіх дурняў было небагата. Такім, як правіла, не балела сваё, тым больш не магло балець чужое. А вось хлопцам спакойным і быццам несамавітым чужы боль балеў як свой. Падоўгу яны моўчкі стаялі ля вокан палаты, думалі свае цяжкія думы. Нямала было і такіх, што ведалі пра лёс сваіх родных і блізкіх: іх няма і хаты папалены. Сціскаліся да белых костачак кулакі: дай толькі, варажына, дабрацца да цябе, дайсці да твайго дому...

Такіх — угадваў капітан Івановіч — было большасць у маршавай роце. Варта абвесці вачыма строй.

Пілоткі на галовах, плашч-палаткі на плячах выдавалі бывалых салдат. Не толькі нашыўкі за раненні і медалі на гімнасцёрках. Вось зараз разбяруць іх камбаты, што злева і справа начальніка штаба, размяркуюць па ротах. Ротныя перададуць іх старшынам, тыя — пісарам, каб залічыць у спісы асабовага саставу. Ланцужок доўгі, а перадавая — побач, яна можа і перапыніць гэтае залічэнне, і многія ў выпадку чаго, — а такіх выпадкаў колькі хочаш, — застануцца навек невядомымі салдатамі.

Перадавая сапраўды побач. Галавы за бруствер не высунеш, не скажаш, як у роднай хаце: добры дзень, Мар’я, вось я і прыйшоў. Мар’і стаміліся чакаць салдата, бо яго найперш чакае вайна, Мар’іна саперніца. Чакае і моцна-моцна трымае. Адпусціць яна можа ў двух выпадках. Першы — па раненні, пакуль салдата падрамантуюць у шпіталі. Другі — калі заб’юць. Тады яму паложана бестэрміновае звальненне.

Гінулі пад бомбамі ў эшалонах, не даехаўшы да фронту, дзе, як лічылі, і пачыналася вайна. А раней за ўсё пад тымі ж бомбамі ў родным доме, на зборных пунктах ваенкаматаў і ў тых жа маршавых ротах, як во гэта. Тут, праўда, людзям больш пашанцавала. Хто-ніхто, відаць, і перазнаёміцца паспеў, і старшы лейтэнант, што прывёў роту ў размяшчэнне палка, перадаў начальніку штаба спіс асабовага саставу. Далажыў, што ў наяўнасці, адпаведна гэтаму спісу, усе, ніхто не адстаў, не прапаў, не захварэў па дарозе. Але парадак ёсць парадак. Асабліва яго пыніць вайна адносна тых, каго могуць забіць сёння ж або заўтра.

Начальнік штаба робіць пераклічку. Віншуе з прыбыццём у слаўны гвардзейскі ордэна... і гэтак далей полк, што прайшоў немалы гераічны шлях, які вам выпаў гонар працягнуць яго і прыўмножыць, і вы павінны пранікнуцца, і гэтак далей, і гэтак далей... Усё, што гаворыцца ў падобных выпадках.

Капітан Івановіч і старшына Фішман былі таксама ў плашч-палатках, як і маршавікі. Але салдаты ў страі не бачылі іх пагонаў і таму не ведалі, хто яны па званнях і наогул што яны за загадкавыя вайскоўцы, што пасталі за спінамі і трохі збоку начальніка штаба і афіцэраў абапал яго. Начальнік штаба выгукваў з паперы прозвішчы і на кожнае “я!” узнімаў галаву і таропка акідваў позіркам адказчыка.

Не адзін раз за сёлетнюю вясну і пачатак лета тэтыя загадкавыя “купцы”, якімі былі капітан Івановіч і старшына Фішман, выбіралі з маршавых рот сабе папаўненне. Не заўсёды ім шанцавала, хоць маршавыя роты адна за адной прыбывалі і прыбывалі. Раней не дачакаешся, а з вясны, здавалася, ім не будзе канца. У траншэях і зямлянках стала цесна, а фронту слалі і слалі людзей. Кажуць, у цеснаце, ды не ў крыўдзе, але капітан Івановіч не цешыўся з такой цеснаты. Чым яе больш, тым большае будзе прарэджванне. А яно неўзабаве, гэта ўжо і сляпому відно. Ён ужо амаль фізічна адчуваў блізкае наступленне, як і старшына Фішман, з якім спавядаліся мо ўпершыню адкрыта ўсю мінулую ноч, як і начальнік штаба, што выгукваў прозвішчы са спіска, як і камандзір палка, якога — ведаў Івановіч — выклікалі ў дывізію і ён пакуль не вярнуўся, урэшце, як і кожны салдат, што прыбыў сёння з маршавай ротай у іх полк. Маршавая рота, трэба думаць, была не адна па дарозе са станцыі. Усю вясну і пачатак лета, і сёння не выключэнне, канешне, дарога жыла неспакойным жыццём і нямала чаго назапасіла ў лясах і пералесках перад лініяй фронту. Тэхнікі, здавалася, не было ўжо куды ставіць. Пара, даўно пара. Дзевяць месяцаў стаіць тут фронт без аніякага руху, калі не лічыць лакальнага зімовага наступлення лявей, на рацэ Проні, калі вызвалілі Прапойск. Дзевяць месяцаў — тэрмін на вайне вялікі. Ды і вайна зацягнулася. Праз тыдзень ёй споўніцца тры гады, а яна ўсё на роднай, на сваёй зямлі.

Згадалася капітану Івановічу няўдалае наступленне пазалеташняй вясной пад Харкавам. І там прыбывалі маршавыя роты, ішлі бясконцыя эшалоны, набітыя войскамі, а над імі, нібы груганнё, віселі “юнкерсы” і амаль беспакарана бамбілі і расстрэльвалі іх далёка на падыходзе да станцый выгрузкі. У бой з ходу ўступала палова таго, што рыхтавался ўступіць, каго слалі на падмацаванне. Палова разгубленых, амаль дэмаралізаваных людзей. Як жа так, думалася многім з іх, тыдзень назад, як грузіліся ва Уфе, у Прыўраллі, а тут, не паваяваўшы як след, як след не агледзеўшыся, апынуліся ў нямецкім палоне. У непралазным вясновым чарназёме грузлі гарматы. Падалі коні ў пастронках; на дарогах, зграznуўшы, стаялі бездапаможна машыны. На плячах неслі салдаты скрынкі з боепрыпасамі. На кінутую амуніцыю ніхто не звяртаў увагі, было не да яе.

Нагледзеўся тады капітан Івановіч людскога гора і ўсеагульнай бяды. Там і яго ўзяла яна ў свае скабы. Іх парадзелая дывізія абаранялася пад Сакаловам. Непадалёк прымаў баявое хрышчэнне асобны чэхаславацкі батальён пад камандаваннем палкоўніка Людвіка Свабоды. Перапала і ім. Не выручыла падмацаванне з Прыўралля, калі не наадварот. Яно, не паспеўшы ачомацца ад бамбёжак у дарозе, на перагонах і станцыях выгрузкі, пакацілася па шырокім расквашаным стэпе да Северскага Данца, на рубеж ракі Мжа, цягнучы за сабой, нібы паток селі, астаткі знясіленых папярэднімі баямі палкоў і дывізій. У куламесе неразбярыхі аказаўся і капітан Івановіч. Тады ў небе нібы прарваліся ўсе магчымыя і немагчымыя застаўкі і загародкі. Знізу раставала, а зверху бесперастанку ліло, змываючы рэшткі снегу. Праз колькі дзён расквасіла неверагодна. Ліпкі чарназём чапляўся пудамі, сцягваў з ног боты. Асабліва з брызентавымі халявамі. Іх насілі, як правіла, няшчасніцы-дзяўчаты: санінструктары, тэлефаністкі, тыя, што служылі пры штабах. Яны з усіх сіл цягнуліся за сваім войскам. Не прывядзі Гасподзь адстаць, трапіць у рукі немцаў, асабліва эсэсаўцаў, што ішлі па пятах і ад якіх не ставала, здаецца, сіл адарвацца. Калі трапіш да іх, то і насмяюцца, і наглумяцца, а яшчэ і ў ганьбе расстраляюць. Упершыню тады капітан Івановіч спагадна падумаў пра сваю колішнюю жонку Клаву. Добра, што ёй не выпала такога пекла. Падумаў і не стаў сябе дакараць за хрысціянскае ўсёдараванне, за бесхрыбетнасць і слюнцяйства, якога не меў права праяўляць да Клавы. Але апраўдваў сябе ўсё тым жа хрысціянскім усёдараваннем і не бачыў свайго грэху. Хіба грэх дараваць каму-небудзь? А тут былой жонцы. Яна мела слабы характар, зусім не гадзілася ў дзекабрысткі. І гэта пацвердзілася жыццём. Ёй загадалі пісьмова праз газету адмовіцца ад мужа, ворага народа, якім аб’явілі Івановіча, яна і адмовілася. Ды, падумаўшы, чаго ёй было трымацца за Івановіча, няхай палкоўніка, няхай з ордэнам Чырвонага Сцяга за Іспанію. Дзяцей яны не мелі, дзеці не звязвалі. Прывязанасць адно да аднаго калі і была напачатку, пастуова знікала з-за яго пастаянных камандзіровак і адсутнасці. І ўсё ж у цяжкую хвіліну ён успомніў Клаву і першы раз парадаваўся, што яна не побач.

...Вестка пра вайну даляцела і на Калыму, куды яго запраторылі адбываць дзесяць гадоў без права перапіскі. Зэкі адчулі, што нешта здарылася незвычайнае, па паводзінах вохры. Тыя як азвярэлі, хоць і да гэтага ніколі не былі ягнятамі. Пра вайну гаварыць ворагам народа яны не мелі права, а то яшчэ ўзрадуюцца. Трэба як ніколі стражэй, каб ніводзін сукін сын не ўцёк да Гітлера, каб і самога вохраўца па асабістым недаглядзе не адправілі на фронт. А ён, фронт, коціцца, ой як хутка коціцца ад граніцы ў глыб краіны.

*(Працяг на стар. 14—15)*

 **ЧАСАПІС**

## Беластоцкаму "Часопісу" — 10 гадоў!




**Апошні дзесяты нумар беластоцкага грамадска-культурнага "Часопіса", які выдаецца намаганнямі Беларускага аб'яднання студэнтаў, амаль цалкам прысвечаны 10-гадоваму юбілею выдання, што не так даўно адзначалі журналісты, беларуская ды польская грамада Беласточчыны.**

**Гэтай даце прысвечаны артыкул Юркі Хмялеўскага, у якім рэдактар "Часопіса" успамінае асноўныя моманты станаўлення выдання ў мінулыя гады. Ёсць тут таксама справаздача пра юбілейную сустрэчу, на якой Юрку Хмялеўскаму прадстаўнік Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны РП Ежы Завіша ўручыў адзнаку заслужанага дзеяча культуры.**

**Акрамя афіцыйных паведамленняў, віншаванняў з нагоды юбілею, успамінаў, "Часопіс" змяшчае шэраг цікавых матэрыялаў па рознай тэматыцы: "Беларусь паміж Гродна і Віцебскам" А. Казлоўскай-Глагоўскай, "Чалавечыя лёсы: Пётра Пятроўскі" Міхася Мінцэвіча, "На прымусовых работах у Нямеччыне" Лены Глагоўскай, нататка "Канцэрты Міхася Забэйды-Сумiцкага ў Беласточчыне 9.X.1942 года", таксама каляндар гістарычных дат, рэцэнзіі, допісы чытачоў і шмат іншых цікавых матэрыялаў з жыцця беларусаў Польшчы.**

**Ну, а мы віншуем калегаў з Беласточчыны з нагоды 10-годдзя "Часопіса" і зычым творчых поспехаў на карысць беларускай культуры!**

**А. МІТНОВІЧ**

## Паўстанцам ад нашчадкаў

**Днямі на вайсковым палігоне бліз вёскі Ружаны (Брэсцкая вобласць) адбыўся незвычайны мітынг. Быў ён адметны тым, што месцам яго правядзення стаў толькі што адроджаны помнік паўстанцам Кастуся Каліноўскага.**

**У 1863 годзе на гэтым месцы адбылася бойка падчас якой загінула 40 паўстанцаў. Усе былі пахаваны ў агульнай магіле. У 30-я гады на месцы пахавання быў узведзены помнік. Аднак у 46-м вайскоўцы занялі гэтае месца пад палігон і помнік быў значна пашкоджаны. Праўда адмысловая камісія вызначыла, што сапсавалі не вайскоўцы, а звычайныя вандалы. Як бы тое не было, але помнік аднаўлялі менавіта людзі ў пагонах. У гэтай святой справе ім дапамагалі мясцовыя ўлады і актывісты Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.**

**В. Д.**

## Імёны знаёмыя і новыя

**Прыхільнікаў мастацкага слова і музыкі парадаваў чарговы нумар часопіса "Ад лідскіх муроў". Побач з вядомымі аўтарамі, такімі, як Уладзімір Васько, Сяргей Астравец, Ліля Сазанавец, Пётр Макарэвіч, Юры Карэйва, выступаюць і новыя. Гэта настаўніца Ганна Ралікоўская, работнік завода "Нёман" Уладзімір Малец, навучэнцы Хрысціна Ярмак (педвучэльня) і Алесь Хітрун (ПТВ-196), ветэран працы Сымон Лапата.**

**У раздзеле "Спадчына" — вершы Пятра Калбікі, колішняга студэнта Шчучынскай настаўніцкай семінарыі. У 18-гадовым узросце таленавіты юнак пасля вызвалення Гродзеншчыны ад гітлераўцаў пайшоў у войска і ў лютым 45-га загінуў ва Усходняй Прусіі. Са змешчанай у часопісе нізкі вершаў выразна бачыцца захапленне аўтара роднай старонкай, туга па любай Айчыне, вера ў яе лепшую долю.**

**Заканчваецца нумар "Спеўнікам". У ім змешчана песня юнай лідчанкі-кампазітаркі Дзінары Мазітавай "Калыханка Святланы".**

**Часопіс, заснавальнікам якога з'яўляецца літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь", змяшчае і ілюстрацыі. Адна з іх апавядае пра сустрэчу ў Лідскай педвучэльні з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам.**

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

ПАМЯЦЬ

# Хутар над Котрай



На Скідзельшчыне, пяць кіламетраў ад Баброўні, на правым баку ракі Котры знаходзіўся хутар Крушнікі, дзе пражыла некалькі пакаленняў сям'я Таранкаў. У пачатку 20-га стагоддзя вялікая сям'я распалася на дзве хаты. У адной з іх нарадзілася і вырасла маці паэта Міхася Васілька Агата Міхайлаўна Таранка.

Прырода вакол хутара была надзвычай маляўнічая. З аднаго боку цягнуўся на некалькі дзесяткаў кіламетраў стары казённы бор, дзе было безліч ягад і грыбоў. На ўскраіне — бярозавы гай з салаўінымі хорамі і мноствам суніц. З другога боку хатаў — духмяны ў квецені луг. Панскі луг, але прыгажосць яго належала ўсім. З трэцяга боку, пaўднёвага, поле ў жытнёвых засевах, перасыпаных васількамі. З чацвёртага боку, ад поўначы, чыстая вада Котры, з кветкамі лілеяў у летні час. Над берагам рэкі высіліся векавыя дубы, вербы, бярозы ды вольха. Дубы тыя, здавалася, мроілі аб будучым і няўцішна гаварылі з мінулым векам.

На шырокім падвор'і дзве хаты размяжоўвалі клёны, ліпы, дуб, бяроза, рабіна. Хутар патанаў у фруктовым садзе, які пазней, у ваенны год, вымерз. На дзвюх высачэзных хвоях над Котрай высіліся дзве чорныя шапкі бусліных гнёздаў. Клёкат буслоў вечарамі поўніў прастору.

Працавалі ў Крушніках многа і цяжка, але дружна.

Асаблівасцю гэтай сям'і была любоў да кнігі. (І бацькі, і дзяды былі пісьменнымі). Кніга ж была нярэдкай з'явай, бо старэйшы з братоў Агаты, Мікалай Міхайлавіч Таранка, скончыў пры царызме настаўніцкую семінарыю і працаваў у гродзенскай воласці настаўнікам. Ён і прывозіў на хутар зборнікі Някрасава, Пушкіна, Лермантава, Жукоўскага. Зачытваліся ў доўгія зімнія вечары Л. М. Талстым. Настольнай кнігай быў Колас, Купала, малады Багдановіч, Цётка, Канстанцыя Буйла ў пазнейшы час. Шанавалі і творы Ажэшкі. За абедам, снеданнем, вячэрай спаборнічалі ў расказах завучаных вершаў. Кнігі стаялі на спецыяльнай дубовай паліцы і закрываліся вышыванай сурвэткай.

Другой асаблівасцю сям'і было замілаванне да песняў. Голас у братоў цёткі Агаты — майго бацькі Ігната, Мікалая, Івана — быў прыгожы, меладычны і звонкі. Не ўступалі братам і сёстры Агаты — Лідзія і Вольга. Хорам пялі звычайна ў нядзелю падвечар, у туманах на лузе над берагам Котры. Рэха несла гукі мелодый далёка да суседніх вёсак Шкленск, Амуркі, Шчанец, Лабані, Дземша. Гэтыя вёскі былі ў казённым лесе. Моладзь лавіла гукі ў заміранні, выходзячы насустрач галасам. А моладзі ў вёсках было многа (не было ёй куды дзецца). Часам дзяўчаты і хлопцы прыходзілі на хутар і далучаліся да спетых галасоў Таранкаў.

Агата Міхайлаўна выйшла замуж у суседнюю вёску Баброўню за Ёзіка Касцевіча, цікавага маладога чалавека. І калі ў яе падрос сын Міхась і стаў складаць вершы, гаварылі: "Не дзіва, што ў крушніцкай пявунні ды сын паэт".

Якія песні былі ў сям'і любімыя? "Вечерний звон", "Ревела буря", "Степь да степь кругом", "Среди долины ровные", "Выхожу один я на дорогу"... Беларускія: "Ці ўсе лугі пакошаны", "Пасеяла я гурочкі". "Там за гаем зеляненькім", "Касіў Ясь канюшыну"... Асабліва любімымі былі песня Буйлы ў пазнейшыя часы ў патомстве "Люблю свой край" і "Даўно ўжо целам я хварэю" Багдановіча.

Сем'і Таранкаў і Касцевічаў разам выязджалі ў бежанства, разам і вярнуліся. Цёця Агата там, у Казанскай губерні, у вёсцы Малмышка памерла з сухотаў. Дзядзька Мікалай, настаўнік, загінуў у рэвалюцыю. Бацька Васілька, Восіп, не жаніўся другі раз, не прывёў у хату мачыху, а сам з бабуляй, ягонай маці, гадаваў дзяцей. У Крушнікі, да швагроў Івана ды Ігната, прыязджаў часта, — жылі дружна. Яму вясной Таранкі вазілі бульбу для пасадкі, бо былі трохі больш заможнымі.

Міхась Васілёк хутар Крушнікі лічыў пасля Баброўні сваёй другой маленькай радзімай. У яго дзядзькоў, Івана, пры савецкай уладзе настаўніка, і Ігната, які быў Васільку хрышчоным бацькам, Міхась жыў дзень, другі. Хутару ён абавязаны і многімі сваімі вершамі. Вельмі любілі яго сыны Ігната, мае браты Сеня і Віця. Прыходзіў у Крушнікі Васілёк звычайна, як стане сутонець, на прыцемках, калі сем'і вярталіся з работы... Мяне і малых дачок дзядзькі Івана, Ірыну і Людмілу, ён частаваў арэхамі, якіх было ў наваколлі шмат. Гутарку перасыпаў ён прымаўкамі: "Бадай яго люндар свісनуў", "Гад паласаты", "Пасядзелі крышку — вып'ем па кілішку" і іншымі. А мы, дзеці, пасля думалі: што гэта за такі люндар?.. Бабулю сваю ён успамінаў з гумарам у шырока бытаваўшым яго вершы "Па грыбы". Ён не быў у друку, але я яго запомніла на памяць. Над Котрай *гарэла вогнішча*, варылася вячэра, сям'я з госцем сядалі пад адкрытым небам за стол, на лавы, збітыя з дошак. Гучалі словы:

*Раз у нядзельку нараночку*
*Пайшоў я грушы трэсці ў садочку,*
*Ажно бачу: каля хаты*
*Ідуць бабы і дзяўчаты,*
*Кошыкі нясуць, тарбы —*
*Пэўна, думаю, ў грыбы...*

Вячэра была няхітрая: бульба, гуркі са смятанай, сыр, малако, варэнне з суніц ці з чарніц, амаль без цукру.

У Таранкаў рыхтаваліся да спектакляў. Брат Сеня, каб не загружаць Васілька, быў вядучым у падрыхтоўцы п'ес. Ставіліся "Прымакі", "Паўлінка", "Пінская шляхта", "Боты", "Мікітаў лапаць", "Модны шляхцюк"... Помню, як у вёсках Шчанец, Бандары, Шкленск Васілёк чытаў свае вершы, а браты дэкламавалі вершы Коласа і Купалы. Карысталіся вялікім поспехам. З цяжкасцю дабіваліся ад панскіх уладаў дазволу на такія вечары, бо беларуская мова пры пілсудчыках прыніжалася.

Аднойчы вечарам халоднай зімы тата плёў кошычак з белых карэнняў, мама варыла вячэру, сёстры хто праў, хто ткаў кросны, хто вязаў з авечай воўны пальчаткі або шкарпэткі, а я вучылася вышываць гладдзю. Брат Сеня чытаў уголас нейкую кнігу. У дзверы далікатна пастукалі. Запрасілі зайсці. Парог пераступіла маладая жанчына гарадскога тыпу з чамаданчыкам. Прадставілася: "Зоська, знаёмая Васілька". Прапанавалі распранушца, запрасілі да пліты пагрэцца. Адагрэлася. Захапілася тканінаю: посцілкамі-выбіранкамі (у мяне і цяпер адна з іх захоўваецца як памяць), патрымала ў руках зграбны белы кошычак, дакранулася да звязанай пальчаткі. І аб усім адазвалася ўсхвалявана, пахвальна. Дзівілася, як такое можна зрабіць рукамі, сказала: "Такую прыгажосць трэба захоўваць у музеях".

Неўзабаве з'явіўся Васілёк. Яна з чамадана дастала яму патрэбныя кнігі. Міхась у падзяку пацалаваў ёй руку. Працягнула кніжачку "Першыя зярняткі" мне: "Гэта на памяць аб добрай цёці". Гэта была першая чытанка для дзетак-беларусаў. Я яе завучыла тады ўсё на памяць. Аўтара кніжкі забыла. На першай старонцы быў верш Купалы:

*Вучыся, нябожа, вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй, з няволяй...*

Гасцей частавалі лепшым, што было, — каўбасою, але гарадская госця далучылася да печаных бульбы і саладухі (тады быў пост). Ухваляла вельмі саладуху, пыталася, як яе гатуюць.

Пасля візіту гарадской госці ў нашай хаце праз некалькі дзён быў вобыск. Значыць, літаратура была забароненай, а наша хата з'ўлялася явачнай кватэрай. Вобыскі ў нас былі часта, але недазволенага нічога не знаходзілі.

У вайну Васілёк быў у нямецкім палоне. Браты Сеня і Віця дапамагалі ўцекачам-палонным чырвонаармейцам прабірацца на ўсход, даставалі карты, компасы, харчы, адзенне, лячылі параненых. Васілёк збег з палону. Сеню і Віцю па чыймусьці даносу заарыштавалі нямецкія фашысты. Сеню замучылі па дарозе з азёрскага гестапа ў гродзенскую турму. Віця быў закінуты ў канцлагер Маўтгаўзен у Аўстрыю, дзе і памёр. Васілёк хаваўся на хутарах, а пасля пайшоў у партызаны.

Наведваў ён Крушнікі і пасля вайны. Плакаў разам з намі па братах. Цікавіўся маімі вершамі.

**Фаіна САМОЙЛА,**
**Вёска Бандары Гродзенскага раёна**

ПОШТА

Юрась НЕРАТОК

# "Жыццё — як у полі барозны..."

## Беларусам

*Пакуль здрабняем на зямным абрусе*
*мы маналіт мінулага на друз,*
*не згасне сонейка над Беларуссю!*
*...Але ці ведае яно пра Беларусь?*

*... Пакуль рунее жытняя палоска,*
*і ржэўнік сцеражэ саломы стог,*
*нас не пакіне міласэрнасць Боска!*
*...Але ці помніць беларусаў Бог?...*

*Пакуль мы даглядаем захад продкаў,*
*пакуль нашчадкаў досвітак глядзім,*
*нас не звязе ў нябыт забвення лодка!*
*...Але ці трэба гэта нам самім?...*

## Вецер

*Не з дуброў, не з палёў*
*ветру дзёрзкі напеў.*
*Нехта смецце падмёў*
*ды прыбраць не паспеў.*

*Ветру што? — ён чужы*
*беспрытульны бядак:*
*што слупы — што крыжы,*
*што бялізна — што сцяг.*

*Разграбае, як звер,*
*і шпурляе наўкол*
*хлам бязглуздых хімер*
*і ашмоцце радкоў.*

*Што яму? — ён ляціць*
*то наўскос, то наўздоўж!..*
*...Раптам вецер прыціх —*
*астудзіў яго дождж.*

## Галалёд

*Жыццё — як у полі барозны:*
*то лёс, то абставін збег.*
*...Уночы было марозна,*
*а зранку цярушыў снег.*

*За думкаю думка імчыцца,*
*узорвае памяць пласты...*
*Злачынцам на месца злачынства*
*прытэпаў я ў скверык пусты.*

*Ды хто ўжо цяпер разбярэцца,*
*хто скажа, чые там грахі?*
*Хто вогнішчу даў разгарэцца:*
*запалка ці порах сухі?*

*Мужчынскае сэрца слабое:*
*цягнуўся да ласкі цялём.*
*блытаў другіх з табою,*
*як блытаюць веցце з галлём.*

*А ты ўсё шукала свой бераг,*
*як, лёд узарваўшы, рака.*
*стос вершаваных паперак*
*змяняла на твор мастака.*

*Пара ўжо закончыцца трызне,*
*і зноўку мне стаць на крыло.*
*Ды так час ад часу заціснe:*
*здаецца, што ўчора было!*

*Паплакаўся трохі і годзе.*
*Хай ліха цябе абміне!*
*...Буксуюць па галалёдзе*
*стаптаныя боты мае...*

## Самота

*Самота зіркне злоснай кобрай*
*і праслізне ў душу вужом.*
*Не зыч таму дарогі добрай,*
*хто выкрасліў цябе крыжом.*

*Жадаць не трэба ўваскрасення*
*ілюзій, ад якіх адвык.*
*Хто сеяў шрот замест насення,*
*пажне не каласок, а цвік.*

*Калі ж каменне праўды жорсткай*
*сатрэ на пыл крышталь надзей,*
*хай не засядзе ў горле косткай*
*абломак крыўды на людзей.*

***Звычайна мастакі з пісьменнікамі — калі яны не асабістыя сябры — сустракаюцца досыць рэдка. Ну, магчыма, на выставах, на літаратурных вечарах... Культурніцкае ставарышэнне «Дуброва Беластоцкая», названае ў гонар сваёй гміны, вырашыла папрaвіць такое ненармальнае становішча і сабрала на міжнародны «малярска-літарацкі» пленэр мастакоў разам з майстрамі пяра ў прапорцыі 3:2. Міжнародны статус забяспечылі мерапрыемству віленскія палякі (сярод якіх аказалася некалькі беларусаў) і госці з Беларусі — Кацярына Паплаўская і аўтар гэтых нататкаў. Умовы і сродкі дазвалялі прыняць 40 удзельнікаў з самой Польшчы і іншых краін, але прыехала трошкі больш паловы. Не то на жнівень усе спланавалі адпачынкі, не то з-за адноснай працягласці дарогі: Дуброва Беластоцкая размешчана ля самай польска-беларускай мяжы, да Гародні 15 кіламетраў — «бабці пешшу хадзілі». Гаспадары не забыліся пазначыць на запрашэнні дзве карты — Польшчы і ваяводства Падляскага, каб гасцям лягчэй было зарыентавацца. Нам, блізкім суседзям, не пашанцавала: якраз закрылі на рамонт аўтамабільны пераезд Брузгі — Кузніца, і рэйсавы аўтобус даў кругаля на Бераставіцу — Баброўнікі, дзе мы прастаялі 8 гадзін. З Беластока да пункта прызначэння дабіраліся дызелем праз Сакулку (па-нашаму Саколка). У Дуброве нас сустрэлі і павезлі яшчэ далей — у Ружанысток, дзе ў былым кляштары размешчана аб'яднанне сельскагаспадарчых школ. У інтэрнаце «ральнічай» школы і размясціліся ўдзельнікі пленэру. Праграма, акрамя ўласна творчай працы, прадугледжвала экскурсіі, сустрэчы з цікавымі людзьмі, разнастайныя дэгустацыі з агніскамі на прыродзе, дзе мы знаёміліся, атрымлівалі новую інфармацыю і набіралея ўражанняў для творчасці.***

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# Дзе бацяны і "Квят Бебжаньскі"...

НАРЫС-РЭПАРТАЖ





*Удзельнкі пленэру*

## Ружанысток

Дуброва была ўладаннем не польскіх, а літоўскіх князёў. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай часова знаходзілася пад нямецкім кіраваннем, а потым апынулася ў межах царскай Расіі. На працягу сваёй гісторыі яна то набывала статус горада, то мізарнела і траціла яго. Кароткі перыяд бальшавіцкага панавання перад другой сусветнай запомніўся рэпрэсіямі і рабаваннем касцёлаў.

Ружанысток, што за 5 кіламетраў, перш зваўся Крывым Стокам, а ўзвышэнне і росквіт яго звязаны з цудатворным абразом Дзевы Марыі. Пра гістрыю святыні нам апавядалі двойчы: сівенькі ксёндз Казімеж і прафесар Люлевіч, які выступіў са спецыяльнай лекцыяй. Калі коратка перадаць пачутае, то гісторыя такая. Мясцовая зямля належала графу Тышкевічу — таму самаму, што жыў у Лагойску і чый славуты парк там захаваўся. Граф адпісаў зямлю сваяку Феліксу Шчаснаму, які пабраўся з Тышкевічанкай іншай лініі. Пакуль ротмістр знаходзіўся ў паходах альбо займаўся важнымі справамі ў Гародні, ягоная Еўфрузына малілася перад іконай. Выяву Маці Божай намаляваў па іх замове гродзенскі мастак Ян Шрэдтэр. Праз шэсць гадоў, у 1858 г. заўважаны першыя цуды: перад абразом сама па сабе загаралася лампада, пачаліся цудоўныя ацаленні. Тышкевічы сталі фундатарамі багародзічнага касцёла, які з цягам часу зрабіўся асяродкам дамініканскага кляштара.

Культ цудатворнай іконы рос і пашыраўся, слава пра яе пайшла па ўсёй Польшчы. Але ў другой палове 19-га стагоддзя па загаду Аляксандра II кляштар перадалі праваслаўнаму духавенству, і гаспадынямі сталі манашкі. Яны тут шмат чаго збудавалі, займаліся дабрачыннай дзейнасцю сярод мясцовага люду і нават дазволілі весці службу па-польску ў новай, «зімовай» царкве. Нязвыкла бачыць побач з манастырскімі збудаваннямі сапраўдны палац, узведзены дзеля высокага сану ігуменні з Нарышкіных. Дырэктар аб'яднання школ Адам Клін расказаў нам, што сам самадзержац прылятаў сюды на цэпеліне, напалохаўшы коней на выгане. Перад наступленнем нямецкага войска ў 14-ым годзе манашкі мусілі ратавацца і ў спешцы не забыліся прыхапіць з сабою каталіцкую святыню. Ёсць версія, што след яе нібыта вядзе ў полацкую Сафійку. Каштоўную копію зрабілі ў міжваенны час. 15 біскупаў з'ехалася на каранацыю святога абраза ў 1981 годзе. Бачыць яго можна толькі ў тым выпадку, калі ксёндз націсне патайную кнопку, тады просты, беларускай школы абраз з'язджае, і ў бляску славы ўзнімаецца Яна — каранаваная, з малым Спасам на руках, у золаце і з нізкамі караляў. Прысутнасць цудатворнага абраза надае асаблівую ўрачыстасць богаслужэнням, мноства падарункаў — ружанцаў, ланцужкоў, пацеркаў — сведчаць пра ўдзячнасць вернікаў.

Пад іконай размешчана скрынка з надпісам «Просьбы да Маці Божай і падзякі». Запаветнай просьбы я, відаць, не мела, а дробнай турбаваць Найяснейшую не асмелілася...

Сама ж кляштарная тэрыторыя з усімі пабудовамі, старымі і новымі, сёння з'яўляецца прадметам спрэчкі паміж дзяржавай і касцёлам. Пакуль што яна невырашальная, бо не можа быць дзяржаўнай установы (школы) на касцельнай зямлі. А куточак дужа мілы, і, мабыць, студэнтам тут жывецца няблага.

## Багна Бебжаньская

Так называецца Нацыянальны запаведнік, альбо *park norodowy*, "'зялёныя лёгкія" Польшчы ў 100 тысяч га, адзіны некрануты абшар Сярэдняй Еўропы. У раннім Сярэднявеччы тут праходзіла паўднёвая мяжа таямнічых яцвягаў — пруска-літоўскага племені, якое перастала існаваць недзе ў 14 ст. з-за крыжацкіх нападаў. Ад калісь велізарнай пушчы захаваліся бары і гаі паміж балотаў. Зямля, вада і паветра не пацярпелі ад прамысловасці, хараство некранутага ландшафту прываблівае замежных турыстаў. Непадалёку ад беларускай мяжы бярэ пачатак звілістая, змеепадобная Бебжа (па старых мапах — Бобра). Ніхто не ведае, адкуль узялося гэтае-**е**, якое зацямняе этымалогію тапоніма. Мясцовыя жыхары ўтварылі ад двух варыянтаў уласны — Бебра, ім і карыстаюцца. Вясною Бебжа разліваецца так шырака, што балотныя ўпадзіны ператвараюцца ў азёры. З-за паводкі непакоіцца няма каму, бо аўтахтоны шануюць права ракі выходзіць з берагоў і блізка не селяцца. Толькі тут жывуць "шчаслівыя каровы", якія пасвяцца дзе хочуць, самастойна пераплываюць рэчку і самі вырашаюць, калі вяртацца дадому.

Бабры, панішчаныя ў 19 ст., рассяліліся на рацэ пасля вайны. Іх прысутнасць (каля 100 сем'яў) бачна па зваленых дрэвах. Увесну тут можна назіраць сапраўдны выбух жыцця: адбываюцца двубоі ласёў, стракаціць увачччу ад птушак батальёнаў з іх каляровымі каўнерыкамі, безліч птаства раскашуе на заліўных лугах. Нацыянальным паркам тэрыторыя абвешчана зусім нядаўна, у 1993 годзе, і ўнесена ў спіс міжнароднай канвенцыі, якая ахоўвае месцы існавання воднабалотных птушак.

Бебжаньская багна, як я зразумела, гэта тое, чым магло б быць нашае Палессе, калі б яго не асушылі. Хто ведае, каму пашанцавала болей?

Пра Бебжу, прыехаўшы, мы ўпершыню пачулі ад тутэйшага пісьменніка Міколы Самойліка. Ягонае выступленне на адкрыцці было суцэльнай паэтычнай хвалой "бебжаньскаму краю". А паколькі наш пленэр называўся "Ля вытокаў Бебжы", то да гэтых вытокаў нас у першыя дні і павезлі. Колькі мы ехалі, столькі Мікола паказваў за акно "Рафіка" і захоплена выгукваў: "Вось тыповы бебжаньскі краявід!" Тыповы — значыць неабдымная зялёная роўнядзь поймы і некалькі велічных дрэў на даляглядзе. А то прынясе квітнеючы дзядоўнік і важка прамовіць: "Бебжаньскі квят". Па дарозе з рук у рукі хадзіў альбом, выдадзены пасля пленэру, арганізаванага 7 год таму. На малюнках польскіх і замежных мастакоў цудоўна перададзена агульная атмасфера гэтага краю, дзе вада і суша не варагуюць паміж сабою і дзе пануе нейкі незвычайны, першародны спакой.

## Карповічы і цэнтр Еўропы

Вёска Карповічы значылася ў праграме асобнай пазіцыяй. Адметная яна тым, што на 70 з лішкам двароў тут ёсць 30 буслiных гнёздаў. Ніхто не ведае, за што вялікія птушкі палюбілі вёску. (Кажуць, што яны не селяцца над падземнымі воднымі жыламі.) Ад іх літаральна няма адбою. Гаспадары мусяць закрываць коміны драцянымі загародкамі, а на дахах і дрэвах ладкуюць спецыяльныя прыстасаванні для бацяновых гнёздаў. Толькі ў адным птушыная пара выгадавала ажно пяцёра дзяцей (рэкорд!), у астатніх па адным бусляняці. Жаб і ў балотнай мясцовасці стала меней: людзі кажуць, што іх патруцілі мінеральнымі тукамі. А яшчэ яны гавораць, што першы год маладыя буслы, "пабраўшыся", яек не кладуць, а толькі будуюць сабе жытло. Прыглядаюцца, мусі быць... Вясковых мы пацешылі-такі: перш кагалам крочылі вуліцай, разглядаючы буслянкі і двары, потым з песнямі трэсліся на вазку, які замест каня цягнуў трактар. Пісьменніцкая нешматлікая група рушыла следам за Самойлікам бліжэй да Бебжы. Нас абагнаў трактарок з трыма малымі хлапчукамі, якія ажно верашчалі ад радасці, што ім даверылі руль. Мастакі тым часам у вёсцы падаставалі прылады працы і пачалі рабіць накіды. На адным двары размясцілася цэлая кампанія: Ганна Юшкевіч і Анджэй Скажыньскі (з-пад Варшавы), Данута Ліпска з Вільні ды самавук Павел Бярнацкі з чатырма дзецьмі-школьнікамі. Усе яны размясціліся вакол бацькі з алоўкамі і лістамі ватману, прымаючы чынны ўдзел у творчым працэсе. Трэба сказаць, што "дзіцяты" і ў інтэрнаце паводзілі сябе вельмі прыстойна і нават вывудзілі з ракавіны зубную шчотку варшаўскай пані, за што тая была ўдзячна.

Ад маёнтка пана Карповіча засталіся два слупы ды назва вёскі. Адбіўшыся ад сваіх, пайшла заасфальтаванай прасёлачнай дарогай у бок Ятвязі. Тут іх ажно дзве — Вялікая і Малая. Усяго ў рэгіёне шэсць падобных тапонімаў. Пад Сувалкамі ў так званай Кашубскай Швейцарыі раскопваюць яцвяжскія курганы, дзе воінаў хавалі разам з запрэжанымі коньмі.

Вечарам смажылі традыцыйныя каўбаскі і пілі свежае піва пана Катука, які намі апекаваўся, але перш, апоўдні, наведалі Сухаволю. Там малады бурмістр — магістр Ежы Амелян. Мястэчка з двухтысячным насельніцтвам калісьці мела магдэбургскае права, а ў 1975 годзе прызнана геаграфічным цэнтрам Еўропы. Нашы жартавалі, што падобных цэнтраў у Еўропе мо з паўдзесятка, у тым ліку адзін пад Вільняй. Над валуном з круглай эмблемай перакінута арка, перанесеная з Беластока пасля візіту Папы Яна-Паўла II. Непадалёку касцёл святых Пятра і Паўла, куды мы неўзабаве завіталі. Вядомы ён тым, што тут у 1938 — 1944 гадах служыў ксёндз Папялушка, забіты ў 1984-ым. Пры касцёле мемарыял у гонар святара, вядомага дзеяча "Салідарнасці", падобны на магільную пліту.

Жнівеньскае сонца ў той дзень грэла не скупа, Крыстына Балаховіч разулася і хадзіла босай, як паломніца ў святыні магаметанскай. Вельмі падабаецца мне гэтая віленская смуглявая беларусачка з пяшчотным галаскам і зычлівай усмешкай. Каб не яе дапамога, то мне з маім веданнем польскай шмат што засталося б незразумелым.

На абед нам падалі мясцовую смакату: бульбяную бабку з малаком. Наша варшавянка дзівавалася: яна не каштавала такой стравы. На яе пытанне, адкуль такая назва, гаспадыня сталоўкі пасмяялася: "Вядома, — адкуль. Усе ведаюць, што бабы — найлепшыя істоты ў свеце". Успомнілася цалкам сур'ёзнае сведчанне з другога боку — ад выпадковага дзеда-суразмоўніка на прыпынку; той па-руску сказаў наступнае: "Мая бабуля — аснова ўсяго майго жыцця".

Ад беластоцкіх вёсак дзіўнае ўражанне: нашы — і не нашы. Падслепаватыя, гонтай крытыя, да болю знаёмыя беларускія хаткі, а між іх — заможныя еўракатэджы з сучаснай тэхнікай на двары. У асобных дварах наладжана вытворчасць, на палях снуюць трактаркі з самымі рознымі сельгаспрыстасаваннямі. Утульныя прыватныя крамкі са смачным і блішчастым "шырспажывам" — марозіва, шакалад, пітво, розныя гатункі кілбас і сыру. Ля касцёла можна пабачыць абвестку, якая запрашае на дыскатэку.

У людных асяродках, расклаўшы тавар прама на асфальце, чакаюць пакупнікоў "карабейнікі" з Беларусі. Такую дробязь прывозяць — аспірын, шпількі, гумовыя пальчаткі, — што ажно не верыцца ў рэальнасць нейкага "навару". Мо хіба на спірце і цыгарэтах дабіраюць? На спекулянтаў я нагледзелася на зваротнай дарозе, у цягніку да Гародні. Мярзотнае відовішча, з аднаго боку, а з другога — хіба ад добрага жыцця настаўніцы і афіцэрскія жонкі бяруцца за такі від "камерцыі"?

У Новым Двары, Ячне, Стоку, іншых вёсках шукала прыкмет этнічнай беларушчыны, хацелася пачуць рэшткі мовы. Пачулатакі: ад выпіўшых дзядзькоў, якія мірна бавілі час каля крамы. Мо і тут, як у нас у Мінску: для транспарту і крамы — адна мова, афіцыйная, а між сваіх можна і папросту? Увогуле мясцовы люд падаўся мяккім, незласлівым: нават "пад мухай" мужыкі не сварацца і не высвятляюць адносінаў. Толькі тут, на Беласточчыне, можна сустрэць адметны тып (часцей мужчынскі) — халерычнага тэмпераменту, акцэнтаванай гаворкі, перабольшанай эмацыянальнасці, — які я назвала б паэтычным. Варта зачапіць якогась мясцовага жыхара пытаннем, як ён, падзіцячы акругляе вочы, радасна і лёгка адкрываецца, рэалізуецца праз часовы кантакт з такой паўнатой і свабодай, што мімаволі зайздросціш. Хто ведае, можа, мы ўсе такімі былі б, і адно спецыфічныя ўмовы існавання "пад саветамі" зрабілі нас, беларусаў, палахлівымі, асцярожнымі, прыгнечанымі? Можа, тут не толькі фаўна з флорай засталіся некранутымі, але і наш нацыянальны пра-менталітэт?

— Польскія беларусы моцна экспануюць сябе. Моцна гавораць, бесперастанку адстойваючы свае — хоць бы і невялікія — перакананні. Я думаў, што гэта характарыстычная рыса ўсіх беларусаў, — сказаў Мікола Самойлік, які сам з'яўляецца яскравай ілюстрацыяй да вышэйназванага тыпу. Хто, як не ён, мог зладзіць паездку ў Крынкі да Сакрата Яновіча?

*(Працяг у наступным нумары)*

## Успамін пра Міколу Грынчыка

**12 кастрычніка ў чытальнай зале бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры прайшла вечарына, прысвечаная памяці былога загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры, прафесара, доктара філалогіі, заслужанага дзеяча навукі Міколы Грынчыка.**

**Год назад Мікалай Міхайлавіч назаўжды застаўся ў роднай Бытеньскай зямлі, што ў Івацэвіцкім раёне.**

**Хвіліна маўчання... Агонь запаленых свечак...**

**На вечарыну "Успамін пра Міколу Грынчыка" прыйшлі людзі, якім М. Грынчык быў родным па духу, якіх захапляла мудрасць і сціпласць гэтага Велькага Чалавека, як называлі яго студэнты.**

*І любіў бы, і вымаліў людзям і каням Дараванне, світанне, любоў і спакой,* —

**гэтыя апошнія радкі з верша Уладзіміра Караткевіча, прысвечанага Мікалаю Міхайлавічу, сталі рэфрэнам вечарыны. З успамінамі выступілі сын М. Грынчыка — Мікалай Мікалаевіч, доктар фізіка-матэматычных навук, сябры — Іван Цішчанка, Павел Місько, Андрэй Кляцкоў, паэты Ніна Загорская, Любоў Турбіна, Генадзь Тумаш, калегі і аднадумцы па кафедры і універсітэце — Рычард Саматыя, Вольга Гуліцкая, Валянціна Варапаева, Лідзія Савік, Людміла Дзіцэвіч, Наталля Булацкая, Аляксандр Смолік.**

**Пра бацькоўскі клопат Мікалая Міхайлавіча аб людзях і справах, і не толькі універсітэта, гучалі амаль у кожнага з выступоўцаў. Высокае месца і значная роля, якія М. Грынчык адводзіў слову і кнізе, спрыялі стварэнню пяць гадоў назад у бібліятэцы універсітэта культуры і аддзела рэдкай кнігі, падмуркам якога паслужылі падараваныя ім каштоўныя навуковыя, вучэбныя, літаратурна-мастацкія, нотныя і іншыя творы, што былі прадстаўлены на выставе да вечарыны. Пазнаёміцца са складам кнігазбору хутка можна будзе ў новым выданні, якое рыхтуецца супрацоўнікамі аддзела рэдкай кнігі — гэта ілюстраваны каталог "Усё сваё — дарагое".**

**У яго ўвойдуць і два выданні, якія бібліятэка атрымала ад жонкі М. Грынчыка нядаўна: "Wielka ilustrowana encyklopedja powszechna" (Т.4—9. Krakow), "Encyklopedja powszechna PWN" (Т. 1—4. Warszawa, 1973—1976).**

**Яшчэ ў 1993 годзе да 70-годдзя з дня нараджэння Мікалая Міхайлавіча яму быў прысвечаны бібліяграфічны паказальнік, у які ўвайшлі працы вучонага і літаратура аб ім. Тым самым была пачата новая бібліяграфічная серыя Беларускага універсітэта культуры "Дзеячы навукі і культуры Беларусі", якую вядуць супрацоўнікі бібліятэкі.**

**На самой вечарыне быў створаны яшчэ адзін верш-прысвячэнне М. Грынчыку. Яго аўтарам стала Н. Загорская.**

**Усе прысутныя сышліся на думцы, што ідэі і планы Мікалая Міхайлавіча Грынчыка павінны мець працяг у працы Беларускага універсітэта культуры: фальклорнай, этнаграфічнай, філалагічнай, мастацкай, кнігазнаўчай.**

**"Моц слова — сіла духу", — як казаў М. Грынчык. Дай Бог, каб хапіла нам духу спраўдзіць той добры і пачэсны намер.**

**Лора ДОЎНАР**

## Пра старонку родную

**А пісаў пра яе часопіс "Наш край", што з'яўляўся органам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры і выходзіў з кастрычніка 1925 года па кастрычнік 1930-га. Усяго пабачыла свет 61 нумар, асобныя з якіх здвоеныя. Рэдагаваў "Наш край" Змітрок Бядуля. Часопіс у сваёй дзейнасці вытрымліваў тры асноўныя накірункі: прырода-геаграфічны, грамадска-эканамічны і культурна-гістарычны. Шмат зрабіў "Наш край" па арыентацыі краязнаўцаў на збор слоўніка жывой мовы. Вялікая ўвага звярталася на неабходнасць складання рэгіянальных геаграфічных слоўнікаў, на запіс звестак пра народныя мастацтва, рамёствы, па гісторыі тэатра. На старонках выдання было апублікавана больш як сто праграм, анкет, інструкцый, што тычыліся розных галін краязнаўчай дзейнасці. Пастаянна змяшчалася бібліяграфія па краязнаўстве.**

# ТЫ МЯНЕ ЗНАЕШ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)

Зэкаўскі тэлеграф, аднак, як і бабскі, як і салдацкі, працаваў без перабояў. Пра вайну дазналіся і ў лагеры. Нават пра тое, што з суседняга лагера забралі на фронт генерала Гарбатава. Проста з сенакосу, дзе ён касіў. Значыць, — вырашылі палітычныя, — можна прасіцца і ім. Хоць радавымі, хоць кім заўгодна, — пісалі ў заявах, — а не адмоўце. Некаторым не адмовілі, асабліва, хто меў значнае званне. Не адмовілі і былому палкоўніку Івановічу, панізіўшы да капітана.

Пад Харкавам у самую бездараж сорак другога ён, камандзір разведкі аднаго з палкоў, ноччу праз стэп, удзень хаваючыся па ярах і лагчынах, з групай байцоў, якіх сабе падначаліў, вынес з акружэння да сваіх камандзіра іх дывізіі Шыфарэнку, а галоўнае — сцяг дывізіі, абвязаўшыся ім пад гімнасцёркай.

Калі выйшлі з акружэння, генерала адправілі ў медсанбат, адтуль у тыл — у шпіталь. Сцяг Івановіч здаў у бліжэйшы штаб. Самога, як казалі, праверылі на вашыясць у аддзеле "Смерш" і адправілі ў запасны полк, асабліва не затрымліваючы, бо "смершаўцам", як і іх папярэднікам у недалёкім мінулым, работы хапала з іншымі, больш падазронымі. Не кожны ж выратоўвае сцяг!

У нечым падобны шлях на фронт быў і ў Сямёна Фішмана.

Але спачатку пра тое, як ён трапіў у лагер. Іх, лагераў, у Фішмана было многа. А першы ён як прадчуваў. З кожным днём больш і больш. Як хто на вуха шаптаў: не мінуць табе "чорнага варанка". У рэшце рэшт так яно і здарылася.

Вялікім начальнікам ён не быў, працаваў галоўным бухгалтарам аднае ўстановы. Праца спакойная, быццам непрыкметная. Але характар Сямён меў няўседлівы. Усюды і да ўсяго была яму справа. Ёсць людзі, пра якіх кажуць: усюды свой нос усуне. То гэта пра тых, хто заўсёды гатовы папраўляць казе хвост. Непаседлівасць, таварыскасць, як сказалі б разумныя цяпер, камунікабельнасць Фішмана была ў іншым. Трэба пасадзіць дрэвы вакол установы. Хто возьмецца? Фішман. Хто першы на чырвоным суботніку? Таксама Фішман. А ў застоллі хто зацягне "Па далінах і па ўзгор'ях"? Ён жа.

У бухгалтаркі, яго падначаленай, забралі ноччу мужа. На працу прыйшла заплаканая, вочы чырвоныя, бы набеглыя крывёю. Узяла няўцямна адну гроснкігу, другую — усё з рук валіцца. А рабіць трэба і нікому выгляду не падаць пра сваё гора. Ды кругом жа людзі. Усе ўсё ведаюць, спачуваюць, ды маўчаць. Маўчаць трэба, інакш адно і падумаеш: "Пранясі, Божа!"

Падышоў Фішман. Малады чарнявы здаравяк, галоўны бухгалтар. Гаворыць няшчаснай: "Тэрмінова трэба падрыхтаваць вось гэты дакумент, а мяне пастаянна адрываюць. Зрабіце вы, Зінаіда Андрэеўна. Ідзіце дамоў. У цішыні і зробіце", — разгортвае і падае бухгалтарцы ад першай да апошняй старонкі чыстую, як першы снег, кнігу. Няшчасная Зінаіда Андрэеўна зразумела свайго начальніка. З удзячнасцю паглядзела на яго. На вочы нагарнуліся слёзы. Узяла гроснігу і хуценька пайшла разбірацца са сваёй бядою. А ў святую суботу, як кажуць, выклікаюць Фішмана куды трэба і пытаюць, дакладна як у адну капейку: якую такую тэрміновую работу давалі вы, Сямён Абрамавіч, Зінаідзе Андрэеўне, жонцы ворага народа, надоечы? І што за кнігу ёй уручылі? Зразумеў Фішман: ўліп і выкруткі няма. Пасміхнуўся пераможна і служка нячысціка. Пачаў, як з палітінфармацыі. Згадаў пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры пабудовы сацыялізму, пра капіталістычнае акружэнне Краіны Саветаў, пра шпіёнаў і ворагаў народа, што абселі вакол, пра ўзмацненне пільнасці і помач тым, хто стаіць на варце. Песня вядомая. Фішман слухаў, а сам думаў, ліхаманкава думаў: як жа выкруціцца з учэпістых кіпцюроў, як вырабіцца з пасткі, у якую трапіў? Прыкідваўся Сямён прасцячком — дзе галавой кіўне, дзе падтакне на капіталістычнае акружэнне, то недапетраным выдасць сябе, то раптам спашлецца на Канстытуцыю трыццаць шостага года, якая пры такой гаворцы ні к сялу, ні к гораду, але ў ёй жа сказана, што ў СССР перамог сацыялізм. Круціўся бедалага, як уюн на скавародцы, як сабака каля плота, толькі б вырвацца. Нарэшце зразумеў і не Божы служка, што яго за нос водзяць. Ускіпеў: "Дык ты, жыдоўская морда, не хочаш нам памагаць змагацца з ворагамі савецкай улады, не хочаш з намі супрацоўнічаць?" Аж горача ў галаве зрабілася ў Фішмана, калі яго працяла раптоўная думка: дык вось жа яно, выратаванне! Ён ускочыў з-за стала, схапіў д'ябла загрудкі, што сядзеў насупраць і не чакаў ніякай рэакцыі, і даў у яго морду. Той разгубіўся, адскочыў. На сярдзіне пакоя, як паскубаны певень, папраўляў кашулю, пінжак, спрабуючы зразумець, што здарылася, а Фішман гваздаў яго словамі: "У таварыша Сталіна жонка была яўрэйка. Таварыш Каганові, член Палітбюро, — яўрэй. У Маскве метро імя Лазара Маейсеевіча, а я — "жыдоўская морда?"

Нарэшце паскубаны певень ачомаўся і раўнуў, як бык з прывязі: "Вон!"

Хутка ў Фішмана была знойдзена недастача, якую на судзе па сутнасці ніхто не мог даказаць. Ніхто не заступіўся за галоўнага бухгалтара. Адзін ён ведаў, за што яго судзяць. Вынесены прыгавор — і наперад, Сямён Абрамавіч, па мурамскай дарожцы!

З лагера на вайну памагла яму, як ні дзіўна, усё тая ж недастача. Калі пад Масквой стала вельмі туга, на досвітку ў люцейшы мароз выгналі з баракаў зэкаў на замецены пляц, па якім гуляла і абвівала ногі пазёмка, і як і ў астатніх, спыталі ў Фішмана, калі дайшла чарга, за што сядзіць, адказаў: за растрату. Абурыўся начальнік: "Бач, уладкаваўся і тут на цёплае месца. Яго кормяць, пояць, ахоўваюць, а ён абіраў казну, падрываў магутнасць дзяржавы. А ну марш налева. Пойдзеш цяпер абараняць яе, іскупляць сваю віну".

Салдацкі лёс і да раненняў і пасля санбатаў і шпіталяў ладзіў Фішману не адну экскурсію па вайне. Апошняя — гэтая. Паглядзець ёсць што. За дзевяць месяцаў тут, на перадавой, згодна з паведамленнямі Саўінфармбюро, ішлі баі мясцовага значэння ды праходзілі пошукі разведчыкаў. За дзевяць месяцаў стаяння фронту пасля такіх мясцовых баёў на нейтральнай паласе, асабліва на гале, стаяла процьма падбітых танкаў. І варожых, і нашых. Стаялі, змушаныя дзікай сілай спыніцца ў адначассе ў розных становішчах, як вымерлыя дыназаўры.

Шмат пра што перагаварылі ў мінулую ноч капітан Івановіч і старшына Фішман у зямлянцы капітана. Пасыльнага, ён жа быў і за тэлефаніста, адправілі адпачываць у агульную зямлянку, у якой месціўся няпоўны разведузвод. Няпоўны, бо абы-каго не бралі. Пасыльнаму неабавязкова было слухаць іх размовы. Праз яго нагадалі старшаму сяржанту Аўдоткіну не забыць памяняць вартавых учас каля абедзвюх зямлянак. Самі выйшлі на двор пад магутныя сосны, пастаялі, паўслухоўваліся ў напятую цішыню. Нямоцны вецер шорхаў у ігліцы дрэў, паступова сціхаючы. Неўзабаве, спачатку нясмела і як бы просячы дазволу разысціся на ўсю моц, зашурхатаў рэдкі дожджык. Пастаялі яшчэ, пакуль кроплі не дасталі плячэй, пасля паўз вартавога зноў спусціліся ў камандзірскую зямлянку. На стале калыхнуўся язычок полымя ў пляскатым стэарыначым каганцы. У адзін бок і ў другі, а павдедна як адчынялі і зачынялі дзверы.

На стале ляжала фляжка і стаяла бляшанка з рэшткамі тушонкі. Паселі на табурэткі. Капітан Івановіч зусім не ў працяг таго, пра што гаварылі папярэдне, сказаў:

— А ты, Фішман, не крыўдзі Раю з гаспадарчага ўзвода. Дзяўчына яна сур'ёзная.

У старшыны Фішмана нечакана заскакалі ў вачах чорцікі і нібы хто пацягнуў за язык:

— Заўтра, — зірнуў на гадзіннік на руцэ, — не, ужо сёння прыязджае ў Крынкі машына "Ваенторгу". Не прапусціце, таварыш капітан. Ці вы ўжо дамовіліся з начштаба на адлучку?

Сказаў і зніякавеў. Капітана нібы злёгку тарганула. Незадаволена перасмыкнуў плячыма, суха прамовіў:

— Наконт Раі я табе сур'ёзна. Гавару не як старшы па званні і твой начальнік, а як старэйшы гадамі. М-да, пра машыну "Ваенторгу" мог бы і прамаўчаць, тым больш рабіць намёкі. Намёк, брат, — штука не заўсёды чыстая. З падвойным дном ён. Здаецца, Пушкін гаварыў: "Сказка — ложь. Да в ней намек, добру молодцу урок". Але калі ўжо зайшла гаворка і пра маё асабістае, скажу, каб не вяртацца да яго. Не ведаю, як распарадзіцца вайна, а ў нас з Кацярынай Фамінічнай намеры чыстыя. Душы амаль родначсныя і лёс у нечым сходны. Муж яе кінуў. Не буду расказваць, з-за чаго яны разышліся, пабочнаму гэта нецікава. Ну, а я... Ат, абарвём непатрэбную тэму. Паўтару: не люблю, калі ўмешваюцца ў асабістае. Ты мяне знаеш. Прыйдзе час — сам пра нашы ўзаемаадносіны раскажу...

Паўставалі з табурэтак. Прымоўклі, нібы людзі, што не паспелі добра пазнаёміцца. Нібы не прагаварылі ўвесь вечар і пачатак ночы пра тое, пра што не кожнаму адкрыешся. Нарэшце капітан Івановіч сказаў афіцыйна і гэта было ўжо загадам:

— Ідзіце, старшына, адпачываць. Прышліце тэлефаніста.

Старшына Фішман пайшоў, а капітан Івановіч памкнуўся рассцілаць ложак, як зазумерыў тэлефон. Пасыльны не паспеў вярнуцца з агульнай зямлянкі, і капітан сам зняў трубку. Званілі са штаба палка. Перадавалі загад неадкладна з'явіцца.

Па зямлянцы штаба палка нервова хадзіў яго начальнік маёр Глушакоў. Калі зайшоў капітан Івановіч і далажыў аб сваім прыбыцці, акінуў яго запытальным позіркам, быццам неадкладна хочучы ведаць, што ўтварыў гэтым разам начальнік разведкі, былы палкоўнік, якому ўжо больш двух гадоў не мяняюць капітанскія пагоны, і як трымацца яму, маёру Глушакову, калі запытаюць адтуль яго думку наконт капітана. Звоняць жа не з бытавой цікаўнасці, значыць, нешта нейкае. Сказаў капітану, што ён запатрэбіўся самому камандуючаму корпуса генералу Шыфарэнку. Кіўнуў сувязісту: выклікай.

Калі звязаліся са штабам корпуса і далажылі, што капітан Івановіч з'явіўся, адтуль загадалі перадаць яму трубку. З яе пачулася:

— Капітан Івановіч?

— Так точна.

— Андрэй Максімавіч?

— Так точна.

— Добрай раніцы, капітан. Гаворыць Шыфарэнка. Ваша служба памагла вас расшукаць. Ці атрымалі вы ордэн?

Капітан Івановіч зніякавеў, не ведаў, што адказаць, бы папярхнуўся, не знаходзячы слоў. У трубцы пачулася:

— Ну як жа, мы вас прадставілі да ордэна Леніна... Разбяромся. Заўтра чакаю вас асабіста. Перадайце трубку дванццатаму.

Трубку ўзяў маёр Глушакоў. Не зводзячы позірку з капітана, гаварыў аднастайна, як заведзены дзяк: "Так точна. Слухаюся. Так точна. Слухаюся..."

Астатак ночы ў капітана Івановіча прайшоў як сурочаны. Толькі вярнуўся са штаба палка, зноў узяўся за коўдру, каб разаслаць пасцель, як пазваніў ужо сам маёр Глушакоў. Сказаў, што ў столькі і столькі чакае яго на паляне. Гэта азначала, што прыбывае новая маршавая рота і ён мае магчымасць папоўніць разведузвод.

І вось яны з Фішманам слухаюць, як маёр Глушакоў вітае салдат маршавай роты з прыбыццём у іх слаўны гвардзейскі полк. У іншыя разы звычайна найперш пыталі, ці ёсць сярод прыбыўшых шаўцы, краўцы, цесляры, печнікі, спецыялісты іншых прафесій, без якіх і на вайне не абысціся, цяпер жа маёр Глушакоў не спытаў, а загадаў:

— Хто меў тэрмін, два крокі наперад арш!

Хто меў тэрмін, таго каманда не застала знянацку. З правага фланга, як разам стаялі, так і ступілі плячо ў плячо, двое салдат. Пасярэдзіне з другой шарэнгі, стукнуўшы па плячы пярэдняга, выйшаў яшчэ адзін. Потым, як адумаўшыся, крутнуў і ступіў на сваё месца. Потым зноў ляпнуў па плячы таго, што стаяў у першай шарэнзе, але той дарогі яму ўжо не даў, нібы не зразумеў каманды. На тым і скончылася.

— Прозвішчы? — спытаў начальнік штаба.

Салдаты назваліся.

— Вы паступаеце ў распараджэнне камандзіра ўзвода разведкі капітана Івановіча, — і паказаў у бок загадкавых камандзіраў у плашч-палатках. І нібы ўспомніў, спытаў: — А трэці як?

— Плоскаступнёвых не бяром, — сказаў, як адрэзаў, старшына Фішман.

Маёр Глушакоў зірнуў на капітана Івановіча з папрокам: маўляў, што ў вас за падначаленыя? Але ўголас заўвагі не зрабіў, помнячы, мабыць, начную гаворку яго з генералам Шыфарэнкам і загад генерала адкамандзіраваць Івановіча ў распараджэнне корпуса. Відаць, і таму, што пасля гаворкі з генералам капітан Івановіч прасіў за Фіш-

МУЗЫКА

# “Мы не рускія, мы — беларусы!”

## НА ПЫТАННІ НЯШТАТНАГА КАРЭСПАНДЭНТА “ЛіМа” АДКАЗВАЕ МАСТАЦКІ КІРАЎНІК ВАКАЛЬНАЙ ГРУПЫ “КАМЕРАТА” Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**— Ігар, скажыце, калі ласка, што цікавага адбылося ў жыцці вашага калектыву апошнім часам?**

— У апошні час мы зрабіліся, напэўна, аднымі з самых папулярных артыстаў у Нарвегіі. Толькі гэтым летам далі 51 канцэрт у гэтай краіне, а таксама ў Швецыі і Аўстрыі! Мы, напэўна, больш папулярныя ў Нарвегіі, чым на радзіме, хаця і ў Беларусі ў нас ёсць сваё імя. Але параўнайце: тут мы за год павінны адпрацаваць у філармоніі 55 канцэртаў, а за мяжой далі 51 за два месяцы!

**— А чаму менавіта Нарвегіі вы надаяце такую вялікую ўвагу?**

— Таму што там працуе наш менеджэр. І мы ўжо трэці год запар выступаем летам у гэтай краіне. Там, дарэчы, праводзіцца адзін з буйнейшых еўрапейскіх джазавых фестываляў, у якім удзельнічаюць такія “легенды” джаза, як Рэй Чарлз, Джон Скофілд, Чык Карыя. І мы выступаем на адной сцэне з імі! Гэта вялікі гонар для музыкантаў. Увогуле, цяпер існуе такая тэндэнцыя, што добрыя беларускія музыканты працуюць за мяжой.

**— Гэта станоўчая тэндэнцыя?**

— Зразумела, трэба каб як мага больш музыкаў (як і спартсменаў) прадстаўлялі Беларусь у свеце. Для нашага калектыву вельмі важна, каб за мяжой, у краінах, дзе мы выступаем, ведалі, што мы — беларусы! Аднойчы ў Нарвегіі быў такі выпадак: у гасцініцы спыталіся, адкуль мы прыехалі. Адказваем: “З Беларусі”. “А, рускія”, — кажуць нам. “Не, мы не рускія, а менавіта беларусы!”. — падкрэслілі мы. Давялося растлумачыць, што гэта розныя нацыянальнасці. Для нас вельмі важна, што мы прадстаўляем Беларусь. І гэта цудоўна, што на лепшых еўрапейскіх джазавых фестывалях выступаюць беларусы.

**— Што вы прывозіце з такіх фестываляў?**

— Зразумела, грошы. Але галоўнае — станоўчыя эмоцыі і шмат уражанняў. На жаль, да нас у Мінск немагчыма запрасіць такіх сусветных “зорак”, бо гэта дорага. А мы ж выступаем у адных канцэртах з імі. Проста фантастыка!

**— Як вас прымае за мяжой публіка!**

— Заўсёды з захапленнем. Мы бачым, што людзі атрымліваюць асалоду ад сустрэчы з намі. Але ў канцы тураў, бывае, настолькі стамляешся, што думаеш, каб хутчэй перасталі апладзіраваць. Бо не бывае канцэртаў, дзе б не давялося на 20 хвілін больш працаваць.

**— Якія ў вас цяпер планы?**

— У Краснадар, на Дні Рэспублікі Беларусь. Потым — Масква...

**— А якія канцэрты плануюцца на радзіме?**

— Чэрвень нам прынёс выхад у свет новага CD. Мы плануем зрабіць яго прэзентацыю. А бліжэйшы джазавы фестываль у Мінску, дзе вы зможаце нас пачуць, адбудзецца ў лістападзе.

**— Раскажыце крыху больш падрабязна пра ваш новы дыск.**

— Дыск мае назву “Мой анёл”. Мы спецыяльна рабілі яго цалкам славянскім. Музыка — наша, аўтарская, але запісы адабраны з разлікам на славянскую лінію (у асноўным, беларускую). Зроблены CD у Варшаве, ён атрымаўся вельмі прыгожым як па музыцы, так і па афармленні. З намі пастаянна працуе мастак Дзмітрый Мілаванаў.

**— Ігар, мы пачалі гэтую размову з гастроляў у Нарвегіі. А ў якіх яшчэ краінах пабывала “Камерата”?**

— Цікавыя выступленні былі ў Аўстрыі. Нас запрашала вельмі багатая фірма, якая выпускае мэблю. Адзін з канцэртаў нават праходзіў у манастыры XIV стагоддзя! А ў Італіі мы працавалі разам з сімфанічным аркестрам і капэлай імя Шырмы. Выконвалі 6-ю сімфонію Алега Янчанкі “Апакаліпсіс”, дзе для нас была спецыяльна напісана партыя. Увогуле, “Камераты” не было на радзіме з пачатку ліпеня.

**— Ці не хочацца вам крыху адпачыць ад гастроляў, папрацаваць для землякоў?**

— Хочацца, але зараз гэта немагчыма. Нас яшчэ чакаюць Германія, Англія...

**— Можа, падзеліцеся якім-небудзь цікавым уражаннем ад нядаўніх гастроляў?**

— У Нарвегіі адзін раз на два гады адбываецца буйная нафтавая выстава, куды з’язджаюцца магнаты з усяго свету. У рамках выставы праводзіцца культурная праграма-фестываль. Сёлета мы выступалі там перад каралём Нарвегіі! Было два калектывы: наш і нямецкі брас-ансамбль. У фінале канцэрта яны сыгралі нашу партытуру “Yesterday”, а мы праспявалі. Да гэтага была літаральна адна рэпетыцыя. Мы ганарымся, што прадстаўлялі Беларусь перад каралём Нарвегіі. Не кожны музыкант можа гэтым пахваліцца.

**Гутарыла**
**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”

**РАМПА**

**Тэатр імя Горкага**

*27 кастрычніка* — “Хто твой каханак, Жазефа?”

*28 кастрычніка (ўвечары)* — “Ад’ютант-Ша Ягамосці”

*28 кастрычніка (зранку)* — для дзяцей “Выкрадальнікі вясёлкі”

*29 і 31 кастрычніка* — “Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага”

**“Вольная сцэна”**

*28 і 29 кастрычніка* — “Стомлены д’ябал”

**Маладзёжны тэатр**

*29 кастрычніка*— “Тойбелі і ейны дэман”

*30 і 31 кастрычніка* — “І зноў Рамэа і Джульета”

**Музычны тэатр**

*28 кастрычніка* — “Даратэя”

**Купалаўскі тэатр**

*27 і 28 кастрычніка* — “Піраміда Хеопса”

*29 кастрычніка*— “Паўлінка”

*30 кастрычніка* — “Тутэйшыя”

**ВЫСТАВЫ**

**Палац мастацтваў**

Да *30 кастрычніка* — выставы графіка Уладзіміра Басалыгі і скульптара і мастака Алеся Шатэрніка. Абодвум сёлета споўнілася па 60 гадоў. Таксама працуе выстава жывапісу І. Рэя.

**Нацыянальны мастацкі музей**

Да *6 снежня* — Беларускі фонд культуры разам з прадпрыемствам “Мінскрэстаўрацыя” прадстаўляюць калекцыю адноўленых абразоў 17-18 стагоддзяў. Выстава прысвячаецца 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта.

**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва**

Да *28 кастрычніка* — можна паглядзець абстрактны акварэльны жывапіс Анатоля Кузняцова.

З *19 кастрычніка* — працуе фотавыстава “Размова з цішынёй” Андрэя Шчукіна і Аляксандра Барташэвіча.

Да *4 лістапада* — графічная выстава па матывах казак і народных паданняў Валерыя Слаука.

**Галерэя візуальных мастацтваў “Nova”**

Ад *20 кастрычніка* — фотавыстава маладых майстроў “Homo Novus”

**Мастацкая галерэя “LaSandr”**

Да *1 лістапада* — прадстаўляецца жывапіс Васіля Касцючэнкі.

З *1 па 22 лістапада* — “Пакуль на Беларусі расце трава”, выстава жывапісу Уладзіміра Рынкевіча.

●

Новыя і рэдкія кнігі, часопісы, календары, аўдыё- і відэакасеты шукайце на выставе ў мінскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13).

*Выстава працуе штодня (апроч суботы і нядзелі) з 10.00 да 19.00.*

**ЭКРАН**

*З 23 кастрычніка па 3 лістапада* у Мінскім Палацы культуры ветэранаў адбудзецца паказ французскіх фільмаў 50-х гадоў “Французскае каханне: гульня, разлік, поспех”, арганізаваная пасольствам Францыі ў Беларусі і аб’яднаннем “Кінаклуб”. Пройдзе паказ фільмаў “І Бог стварыў жанчыну”, “Вялікія манеўры”, “Накіп”, “Фрэнч канкан”, “Арфей”, “Фільм на “біс” і “Задавальненне” з такімі вядомымі акцёрамі, як Брыджыт Бардо, Жан Марэ, Жан-Луі Трантыньян, Жан Габэн.

ПАРОДЫІ

## Анатоль ЗЭКАЎ

### Згублены след

Я след
дзявочы,
нібы вецце-волю,
Згубіў у садзе.
У полі не знайду.
**Уладзімір МАРУК**

***Які ўжо дзень пакутую***
***ад болю***
***Такога,***
***што наўрад ці б і сасніў:***
***Я след дзявочы,***
***нібы вецце-волю,***
***Згубіў у садзе***
***паміж яблынь-сліў.***

***То ж дурань быў,***
***калі тарашчыў вочы***
***На спелыя налітыя плады.***
***Калі б ішоў па следзе***
***па дзявочым,***
***Я б не згубіў***
***нідзе яго тады.***

***Я так наеўся***
***яблыкаў уволю.***
***Ды што з таго,***
***калі, як на бяду,***
***Я след дзявочы,***
***нібы вецце-волю,***
***Згубіў між дрэў.***
***А дзе цяпер знайду?***

***Хіба што мо падацца***
***ў луг***
***ці ў поле***
***І там той след дзе-небудзь***
***пашукаць.***
***Мо і знайду,***
***бо там няма***
***ўсё ж голля***
***І яблыкаў,***
***што любяць***
***спакушаць.***

## Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Шукаем трэцяга

*Дык паднімем*
*чаркі вышай,*
*Вып’ем мо і па вядру...*
**Мікалай ЧЫРЫК**

***Сябар Чырык кінуў кліч:***
***— “Прычасціцца” трэба!***
***А ці зможаш ты, Фаміч,***
***Выпіць поўны цэбар?***

***— Не, Мікола, не к дабру***
***Столькі піць — сп’янею.***
***— Ну, дык, можа, па вядру***
***Ў гонар юбілею?***

***Чарка, шкварка, вінегрэт,***
***Вып’ем — не сп’янееш.***
***І які з цябе паэт?***
***Піць зусім не ўмееш.***

***Я і гэтак, я і так:***
***Вельмі ж ён упарты.***

***— Як не вып’еш, —***
***кажа, — гляк,***
***Пі чатыры кварты.***

***Чым, скажыце, не прымус?***
***Не дае мне спуску.***
***— Ты, мабыць, не беларус***
***І тым больш не рускі!***

***Зіркнуў зноў з-пад акуляр***
***На мяне ён хітра.***
***Што? Малы рэзервуар?***
***На дваіх паўлітра!***

***— Стой, — крычу я, —***
***пачакай!***
***Будзем піць, як людзі.***
***Трэба трэці... Пагукай.***
***Гэ-эй! Хто трэцім будзе?***

## Павел САКОВІЧ

### Сплаўляю вершы па Дняпры...

*Я да цябе прыйшла.*
*Трымай*
*Мае расчуленыя вершы,*
*Рачулка сціплая мая,*
*Мой справядлівы*
*крытык першы.*
*Нясі у Сож маё імя,*
*А потым у Дняпро*
*і далей,*
*Каб працавалася*
*штодня,*
*Каб крыху і мяне чыталі.*
**Святлана ЛАПІКАВА**

***Зрабілася паэткай я***
***І ўжо друкуюся, бывае...***
***Рачулка любая мая,***
***Цябе, аднак, не забываю!***

***Табе штодня верш новы***
***ўсё ж***
***Нясу ў бутэльцы***
***з-пад лікёра,***
***А ты нясі яго у Сож,***
***Затым яшчэ далей, у мора.***

***Пад вершам —***
***хатні адрасок,***
***І шанцы ёсць,***
***што прачытаюць***
***Яго ўкраінец Васілёк,***
***А мо ў Басфоры марачок***
***І ў сваты хутка***
***завітаюць.***

## Міжнародны конкурс вершаваных твораў

У адпаведнасці з рэзалюцыяй 30-й Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА пра абвяшчэнне 21 сакавіка Сусветным днём паэзіі, сакратарыят ЮНЕСКА распрацаваў шэраг прапаноў па правядзенні святочных мерапрыемстваў, сярод якіх — Міжнародны конкурс вершаваных твораў навучэнцаў пачатковай і сярэдняй школы, па выніках якога імёны пераможцаў будуць абвешчаны 21 сакавіка наступнага года ў Парыжы ў рамках святкавання Сусветнага дня паэзіі 2001. У сваю чаргу пераможцы па Беларусі будуць запрошаны Саюзам беларускіх пісьменнікаў да ўдзелу ў святочнай вечарыне, што будзе зладжана на Сусветны дзень паэзіі.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца навучэнцы пачатковай і сярэдняй школы. Прымаюцца два вершаваныя творы на адвольную тэму. Творы павінны быць напісаны па-беларуску. Матэрыялы дасылаюцца да 20 лістапада ў Саюз беларускіх пісьменнікаў па адрасе: 220034, Мінск, Дом літаратара, вул. Фрунзе, 5, з пазнакай — Конкурс ЮНЕСКА.

ВЕРНІСАЖ



Малюнак А. ГУРСКАГА



Малюнак М. ГАРЭЛАВАЙ


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 26.10.2000 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 5684

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12